


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 верасня 2003 года

№ 38 (439)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года





## Навіны рэгіёну

### Юбілей касцёла

**ВІЛЕЙКА.** У суботу надзвычай шматлюдна было ў вілейскім касцёле Узвышэння Крыжа, які святкаваў свой 90-гадовы юбілей. Ксёндз-дэкан Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі і яшчэ дванаццаць святароў правялі тут святую імшу, у якой удзельнічалі вернікі з вілейскай і суседніх парафій.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

### Новы начальнік

**МЯДЗЕЛ.** Новы начальнік з'явіўся ў мясцовым РАУС. Ім стаў Васіль Малікаў. Дагэтуль ён працаваў намеснікам начальніка Стаўбцоўскага РАУС. Сяргей Куніцкі, які быў папярэднікам Малікава, пераведзены працаваць у Мінск.

**Аддзел інфармацыі.**

### Сталі кадэтамі

**ВАЛОЖЫН.** Чацвёра пяцікласнікаў Валожынскай школы-інтэрната, сярод якіх ёсць дзяўчынка, сталі вучнямі першага на Міншчыне кадэцка-юрыдычнага класа, што адкрыўся ў Жодзінскай школе-інтэрнаце. Пры паступленні ўлічвалася не толькі жаданне дзяцей вучыцца па новай праграме, але і іх здольнасці, якія правяраліся з дапамогай тэстаў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Пакусалі шэршні

**АШМЯНЫ.** Прадстаўнікі сямейства вос з джалам, якіх называюць шэршні, пасяліліся на тэрыторыі мясцовага льнозавода з вясны. Рабочыя, ведаючы пра небяспечных суседзяў, абыходзілі тое месца бокам. І ўсё ж пазбегнуць няшчасця не змаглі. Рой пакінуў кокан і знайшоў сабе ахвяру: моцна пакусаў мужчыну. На месца здарэння выязджала служба выратавання, якая і "абясшкодзіла" крылатых насякомых.

**Марына СЛІЖ.**

### У падарунак – «Ніва»

**АСТРАВЕЦ.** Раённае свята "Дажынкі" прайшло на Астравеччыне. Ушаноўваліся на ім хлебаробы з усіх гаспадарак раёна, але найбольш пашчасціла працаўнікам СВК "Варняны". За высокія паказчыкі ў рабоце калектыў узнагароджаны аўтамашынай "Ніва".

**Марына СЛІЖ.**

### Падазроны пакет

**МАЛАДЗЕЧНА.** У аўторак, 16 верасня, у гаррайаддзел па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне, што ў гарадскім аддзеле адукацыі знайшлі падазроны пакет. Будынак ачапілі, супрацоўнікаў эвакуіравалі. Высветлілася, што ў пакеце быў будаўнічы клей.

**Святлана ЦІШКО.**

# Каля бэзу «спее» ртуць

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак СШ №11 ледзь не была зачынена з-за надзвычайнага становішча. За домам №3 па вуліцы Францішка Скарыны знайшлі ртуць.**



Па дарожцы каля дома №3 па вуліцы Францішка Скарыны, дзе знайшлі ртуць, кожную раніцу дзеці ідуць у школу і дзіцячы сад. А вечарам там гуляюць падлеткі. Ртуць ледзь не трапіла ў іх рукі. Фота Святланы Цішко.

Раніцай жыхарка дома Ксенія Лукіна пайшла даглядаць кусты бэзу і шыпшыны, што растуць у яе пад акном. І знайшла цяжкі поліэтыленавы пакет. Што трэба рабіць у такіх выпадках, яна не ведала. Непадалёк працавалі мужчыны з камунальнай службы горада, ізалявалі трубы. Але што яны маглі параіць, калі нават кратаць незнаёмыя прадметы небяспечна? Як сказаў адзін з рабочых: "Зазірнеш у яго, а раптам там бомба ці адрэзаная галава. Як пасля такога спаць спакойна?". Ксенія Лукіна набрала нумар 02. Міліцыя прыехала хутка, раён ачапілі, нікога блізка да таго ўчастка не падпускалі. Пры першым аглядзе змесціва пакета стала зразумела, што гэта не бомба, не міна і не ўзрыўчатка, а хутчэй за ўсё ртуць. Патрэбны былі адпаведныя спецыялісты. У 10.24 паведамленне з міліцыі паступіла ў гарадскі аддзел па надзвычайных сітуацыях. Ужо ў 10.30 да дома №3 пад'ехалі аўтамабіль хімічнай і радыяцыйнай разведкі і штаб ліквідацыі надзвычайных сітуацый.

У пакеце былі 3 гумовыя колбы з ртуццю. На ёмістасцях прастаўлены заводскія нумарныя знакі і вага кожнай. Знойдзены вадкі метал важыў 8 кілаграмаў 890 грамаў. У аб'ёме гэта прыкладна 750 мілілітраў. Але колбы былі герметычна закаркаваныя, таму адравіце рэчыва не разлілося. Калі б, не дай бог, гэта здарылася, дзейнасць ці не ўсіх устаноў мікрараёна была б прыпынена. Зачынілі б на тыдзень СШ №11 і дзіцячыя сады, што знаходзяцца побач. У такіх выпадках ліквідатары ў спецыяльных касцюмах збіраюць ртуць, усе паверхні апрацоўваюць растворам, які нейтралізуе ўздзеянне ядавітага рэчыва, зямлю збіраюць і вывозяць. "Надзвычайнікі" ўсцешаныя тым, што пакет з ртуццю не знайшлі дзеці, якія кожную раніцу ідуць каля дома №3 у школу, дзіцячы сад і проста гуляюць вечарам на школьным стадыёне і каля яго. Цікаўныя падлеткі маглі б разліць небяспечны метал (а ён прыгожы, серабрысты), уцячы і забыцца. А на зямлі плямы ртуці непрыкметныя. І жыхары першага паверха дыхалі б парамі атрутнага рэчыва.

Атручэнні ртуццю, паведамілі нам у раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, не бываюць вострымі. Пройдзе шмат часу, пакуль чалавек заўважыць, што стан яго здароўя пагаршаецца.

Так многа ртуці адразу ў Маладзечне ніколі раней не знаходзілі. Звычайна спецыялістаў па ліквідацыі надзвычайных сітуацый выклікаюць у кватэры, дзе разбілі градуснік. Хаця з такім здарэннем людзі могуць справіцца самастойна. Трэба толькі сабраць буйныя кроплі піпеткай, дробныя прамакнуць газетнай паперай, паверхню апрацаваць мыльна-содавым растворам ці растворам марганцоўкі і праветрыць памяшканне. Горш, калі ртуць знаходзяць пад падлогай. Многа праблем са школьнікамі і навучэнцамі ПТВ і тэхнікумаў.

Знойдзеную ртуць адправяць у Мінск на ўтылізацыю.

А здарэннем будзе займацца міліцыя. Па-першае, у Маладзечне няма прадпрыемства па вытворчасці ці перапрацоўцы ртуці. Значыць да нас яна трапіла з іншага горада. Па-другое, колбы былі пранумараваныя, узважаныя і ўпакаваныя ў спецыяльную паперу. З гэтага вынікае, што ртуць скралі з нейкага прадпрыемства для продажу. А за незаконнае распаўсюджанне такога небяспечнага рэчыва прадугледжана крымінальная адказнасць.

**Святлана ЦІШКО.**

### Мастацтва для роздуму



У сённяшнім нумары рэдакцыя распачынае расказ пра вядомага скульптара Уладзіміра Церабуна.

2-я старонка

### Усё пра грыбы



Нельга знайсці чалавека, які б хоць раз у жыцці не збіраў грыбоў. А ці ўсё мы пра іх ведаем?

6-я старонка

### Дом адзінокіх сэрцаў



Пакінуўшы свае вёскі і хаты адзінокія старыя дажываюць век у Куранецкім доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў.

7-я старонка

■ ДА ЮБІЛЕЮ ГОРАДА

# Адкрыліся дзве экспазіцыі

**СМАРГОНЬ. Адразу дзве экспазіцыі, прысвечаныя 500-годдзю горада, якое будзе адзначацца ў кастрычніку, адкрыліся 14 верасня ў Смаргонскім краязнаўчым музеі.**

Першая называецца «Смаргонь на пачатку двух стагоддзяў: XX і XXI» і ўяўляе сабой серыю фотаздымкаў, якая складаецца з двух блокаў. Адзін з іх — выгляд Смаргоні на парозе XX веку. Выявы «мёртвага горада» і горада ў мірныя часы, якім ён быў сто гадоў таму, перафатаграфаваны ў аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з фотаальбома афіцэра Паўлюкевіча, які ў гады першай сусветнай вайны служыў на тэрыторыі Смаргоні. Другі блок — каляровыя фотаздымкі сучаснага горада.

Яшчэ адна экспазіцыя сфарміраваная з матэрыялаў, якія перадаў арганізатарам іх зямляк Уладзімір Шчасны, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Некалькі гадоў ён быў паслом Беларусі ў Вялікабрытаніі. Там, на картаграфічных аўкцыёнах, Ул.Шчасны набыў карты XVI—XX стагоддзяў, на якіх пазначаная тэрыторыя Смаргоні. Усе прадстаўленыя ў музеі карты — арыгіналы. Самая старажытная датуецца 1595 годам і паказвае тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага. Адну з карт 1841 года, на якой адлюстраваны падзелы Рэчы Паспалітай, Ул.Шчасны падарыў смаргонскаму музею.

Асобнае месца на выстаўцы адведзена творам Напалеона Орды, сярод якіх ёсць і выдатныя смаргонскія мясціны.

**Дзмітрый РАГАВЕЦ, БелаПАН.**

■ ПАДПІСКА-2003

# Астраўчане чытаюць перыёдыку

**Астравецкі раён – самы чытальны ў вобласці. На тысячу насельніцтва тут прыпадае выпісаных праз пошту газет і часопісаў больш, чым у любым іншым раёне Гродзеншчыны.**

Начальнік Астравецкага раённага вузла паштовай сувязі Ірына Тальчук упэўнена, што магазіны на пошце, такія, як у Астраўцы, Кямелішках, Гудагаі, павінны быць і паштальёны могуць гандляваць і канкурыраваць са спажывецкай кааперацыяй.

Астравецкія паштавікі спрабуюць гэта рабіць. Пенсію ў пэўны дзень ва ўсе вёскі раёна тут прывозіць машына. Аднachасова яна дастаўляе і прадукты, і тавары, каб вяскоўцы маглі іх набыць на месцы, не выходзячы з хаты. У гэты ж дзень яны могуць заплаціць за святло.

Ірына Эдуардаўна сказала карэспандэнту "Рэгіянальнай газеты", што так выгадна. Не трэба хваляваццa, выпраўляючы паштальёна ў дарогу з вялікай сумай грошай. Ды і з аб'езду машына ў дзень пенсіі вяртаецца з выручкай. Удалося пазбегнуць непатрэбных пераходаў паштальёнаў у аддаленыя вёскі. Так пазбавіліся некаторых матэрыяльных выдаткаў.

У некаторыя вёскі на Астравеччыне газеты і лісты таксама дастаўляюць матарызавана. Для гэтага ўстанавілі абаненцкія скрыні і паштовую скрынку, у якую можна апусціць не толькі пісьмо ці паштоўку, але і заяўку на патрэбны тавар. Нават хлеб пошта дастаўляе па заказу. Быў выпадак, калі адна бабуля кінула ў скрыню паперку – прасіла тэрмінова даставіць ей пачак дражджэй. Заяўку паштальён хутка выканала – спецыяльна купіла дрожджы ў бліжэйшым магазіне.

Вось так паштары з Астраўца заваёўваюць рынак, і ў той жа час нясуць людзям пэўныя зручнасці і выгоды.

**Марыя МІХАЙЛАВА.**

■ ТУРЫЗМ

# Любіцелі паходаў

**Закончыўся чэмпіянат Мінскай вобласці сярод катэгарыйных паходаў за 2002-2003 гады.**

Вельмі ўдала выступілі на ім турысцкія групы маладзечанскага турклуба "Пілігрым". Сярод веласіпедных паходаў 1-е месца заняла група пад кіраўніцтвам Сяргея Бялкова (178 балаў), 2-е – маладзечанскай група пад кіраўніцтвам Ірыны Шаварнёвай, якая набрала 149 балаў. Сярод тых, хто любіць водныя падарожжы, "золата" дасталося групе са Слуцка пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Краўчанкі. Яны набралі 173 балы. 2-е ў групы з Жодзіна і 3-е ў нясвіжскага турклуба "Вандроўнік".

Сярод пешаходных паходаў 1-е месца ў групы Мінскага раёна пад кіраўніцтвам Міхаіла Мазензона (169 балаў), 2-е зноў жа ў маладзечанцаў пад кіраўніцтвам Ірыны Шавярнёвай (140 балаў).

Пераможцы і прызёры ўзнагароджаны граматамі ўпраўлення па фізічнай культуры, спорту і турызму Мінскага аблвыканкома, а кіраўнікі груп за 1-е месца атрымалі грашовы прыз у памеры 20000 тысяч рублёў. Паходы праходзілі ў раёнах Усходніх Саян, Крыме, Карэліі і Беларусі. Усяго ўдзельнічала 16 груп і 176 удзельнікаў.

Радуе, што колькасць груп, прыняўшых удзел у чэмпіянаце, павялічылася ў параўнанні з мінулымі гадамі.

**Іван СІДАРОВІЧ.**

■ НАВІНЫ БЕЛАРУСІ

## Вяртаюць сваё

**Пачаўся працэс вяртання абсталявання і літаратуры калектыву Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Аб гэтым 15 верасня заявіў заснавальнік і кіраўнік навучальнай установы Уладзімір Колас на бацькоўскім сходзе, які адбыўся ля зачыненых варот ліцэя.**

Ён таксама нагадаў, што пасля выхаду пастановы ўрада аб ліквідацыі ліцэя ў будынку навучальнай установы засталася вялікая колькасць маёмасці, што перадалася ў дар ліцэістам рознымі ўстановамі і прыватнымі асобамі. Паводле яго слоў, у нармальнае рэчышча ўваходзіць і навучальны працэс у ліцэі.

## Рабочая сустрэча

**Рабочая сустрэча Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі адбылася ў сочынскай рэзідэнцыі расійскага прэзідэнта.**

Асноўныя тэмы сустрэчы – абмеркаванне перспектыў увядзення з 2005 года расійскага рубля ў якасці адзінага плацежнага сродку Саюза Расіі і Беларусі, а таксама пытанне аплаты паставак расійскага прыроднага газу.

## Здарыўся пажар

**Больш за 80 чалавек эвакуіравалі вечарам 14 верасня ратавальнікі з будаўнічага інтэрната сталічнага прадпрыемства "Мінскрамбуд".**

Пажар пачаўся ў ліфтавай шахце будынка, асноўны ачаг знаходзіўся на трэцім паверсе. Паводле папярэдняй інфармацыі, прычынай пажару стала неасцярожнае абыходжанне з агнём.

## Стаўка на шоу

**У новым сезоне канал ОНТ (Агульнанацыянальнае тэлебачанне) зробіць стаўку на два самыя папулярныя тэлевізійныя жанры: рэальнае шоу і тэлесерыял.**

Акрамя новага праекта расійскага Першага канала "Фабрыка зорак-3", "Уцякач", "Апошні герой-4", гледачы ўбачаць першае ў Беларусі шоу ў рэжыме рэальнага часу "Нашы ў Галандыі".

## Супраць улад

**Збор подпісаў гараджан супраць рашэння райвыканкома аб падвоенай аплаце праезду ў гарадскім транспарце ў выхадныя і святочныя дні пачаўся ў Слоніме.**

Каардынатарам акцыі выступіў камітэт Партыі камуністаў Беларускай. Камуністы лічаць, што Слонім нічым не адрозніваецца ад іншых гарадоў Беларусі, а аргументы кіраўніцтва аўтапарка пра цяжкае эканамічнае становішча не пераканаўчыя.

## Будуць баставаць

**Рэспубліканскі страйком прадпрымальнікаў заявіў аб правядзенні 25 верасня аднадзённай агульнанацыянальнай папераджальнай забастоўкі.**

Гэтыя меры з'яўляюцца вынікам палітыкі ўлад па "ўдушэнні" малога бізнесу. Прадпрымальнікі будуць патрабаваць ад улад адмены абавязковага сацыяльнага страхавання, зніжэння ў 3 разы фіксаванай стаўкі падатку і інш.

**БелаПАН.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Мастацтва для роздуму

**Да 30-годдзя творчай дзейнасці скульптара Уладзіміра Церабуна.**

Калі наведаў у жніўні Смаргонь, то неяк інакш успрыняў усё тое, што давялося ўбачыць. Горад нагадвае вялізную будоўлю з яе штурмам і звыклымі цяжкасцямі. Разглядаючы з акна аўтобуса розныя змены, убачыў на рыштаваннях свайго брата Уладзіміра, які займаўся рэстаўрацыяй помніка У.І.Леніну.

У вызначаны час ён прыйшоў дахаты, дзе сабралася пяцёра братоў, бо прыехаў Міхась з Варонежа, і мы мелі дастакова часу, каб пагутарыць.

Вось тут і прыгадалася наша дзяцінства і юнацтва з яго прыгожымі, як у той песні, думкамі-марамі. Марыў ён стаць мастаком, скульптарам і стаў ім.

Таленавіты чалавек, ён празаймаўся ўсяго толькі месяц на падрыхтоўчых курсах і паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на толькі што створанае аддзяленне скульптуры. На ўступных экзаменах, пасля трохгадовай вайсковай службы, дзе было не да мастацтва, ён набірае 31 бал, хоць для залічэння было дастаткова 28. Колькі радасці было ў бацькоў і ўсіх нас, калі Валодзя паступіў вучыцца ў Мінск. А вось тут і пачаліся яго першыя цяжкасці. Не соладка яму было жыць на адну стыпендыю, бо бедныя бацькі не маглі аказаць яму значную падтрымку, хоць стараліся з усіх сіл.

Уладзімір Церабун, 1994 г.

Добра памятаю яго вялізныя лісты з акадэмічнымі малюнкамі, якія ён прывозіў у Смаргонь, раскладаў на падлозе, вывучаў і шмат думаў. Здавалася, што ўжо можна паправіць у той ці іншай фігуры натуршчыка, а ён знаходзіў. Калі ехаў у электрычцы ці прыгарадным цягніку, паспяваў зрабіць некалькі дзесяткаў накідаў у сваім невялічкім альбомчыку. Гэта былі віртуозныя малюнкі, выкананыя ручкай з чорнымі чарнілами.

Яго талент, памножаны на вялікую штодзённую працу і патрабавальнасць да сябе, рос проста на вачах. Яму пашчасціла вучыцца ў вядомых скульптараў, народных мастакоў БССР, лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі БССР Андрэя Ануфрыевіча Бембеля і Анатоля Аляксандравіча Анікейчыка. Удзячны і сёння Уладзімір сваім педагогам скульптару Генадзю Ільічу Мурамцаву і жывапісцу Уладзіміру Маркавічу Пасюкевічу. З апошнім у іх нечым падобныя творчыя лёсы. Родам з невялічкага беларускага гарадка Капыль, Уладзімір Пасюкевіч сам едзе ў Маскву, паступае, вучыцца і заканчвае Дзяржаўны мастацкі інстытут імя Сурыкава. Дарэчы, дачка Уладзіміра Наташа Церабун ужо пяты год спасцігае таямніцы жывапісу як і яе бацька ў вядомага сёння мастака і педагога У.М.Пасюкевіча.

Ужо на трэцім курсе да майго брата прыйшла першая творчая перамога. Ён выйграе конкурс на стварэнне мемарыяльнага комплексу "Дальва", аб'яўленага сярод студэнтаў. Яго праект быў прызнаны лепшым, заставалася толькі выканаць.

У яго аснове — вобраз беларускай жанчыны-маці, да якой ад жаху прыціскаецца аголены хлопчык, які цудам уцалеў у спаленай вёсцы, якую спасціг лёс вядомай усяму свету Хатыні. Гэты хлопчык, Міколка Гірыловіч, – адзіны сведка трагедыі.

Уладзімір выехаў на месца. Побач з былой Дальвай — невялічкая вёсачка Мятлічыцы, што на Лагойшчыне. Тут ён і пасяліўся. Вялікае сялянскае гумно стала творчай майстэрняй. У дапамогу выдзелілі некалькі школьнікаў. Было ўсё: жаданне стварыць помнік, роспач і незвычайная стомленасць ад перапрацаваных рукамі тон гліны, якая пайшла на амаль 4-метровую фігуру.

Трэба было ўлічыць усё, самому прымаць канструктыўныя рашэнні, каб вытрымаў каркас і шматтонная гліняная фігура не асела, бо бывае і такое. Потым стварэнне формы і адліўка скульптуры з бетону па частках для зручнасці мантажу.

Да справы далучыўся энергічны дырэктар мясцовага саўгаса Уладзімір Сцяпанавіч Буйневіч, які шмат чым дапамог маладому скульптару. А таксама Мікалай Пятровіч Гірыловіч, хаця займаў высокую пасаду ў камітэце Белдзяржтэлерадыё, але з рыдлёўкай і насілкамі працаваў на бетонных работах.

Не так даўно ён мне расказваў, якіх сіл ім каштавала ўстаноўка трох бетонных бэлек, што нагадваюць рэшткі спаленай хаты.

Помнік прыняла экзаменацыйная камісія Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, у якую ўваходзілі А.А.Бембель, А.А.Анікейчык і іншыя выкладчыкі. Старшынёй камісіі быў рэктар такога ж інстытута з Кіева. "Дальву" залічылі за дыпломную работу і паставілі самую высокую адзнаку.

**Юрый ЦЕРАБУН.**

**(Працяг у наступным нумары).**

■ СТАТЫСТЫКА

# Быў шанц атрымаць аўто

**МАЛАДЗЕЧНА. На апошнім пасяджэнні гарвыканкома, дзе разглядаўся стан сацыяльна–эканамічнага развіцця Маладзечна за восем месяцаў года, старшыня выканкома Мікалай Чурсін прапанаваў хоць каму з прысутных паказаць мабільнік вытворчасці маладзечанскага “Спадарожніка“. За такое гарадскі галава абяцаў падарыць аўтамабіль. Смелых не знайшлося. Але, хутчэй не смелых не было – не было гэтых тэлефонаў, нават у дырэктара “Спадарожніка“.**

Зразумела, рэпліка Мікалая Чурсіна была жартам, але ён вельмі дакладна характарызуе не толькі тэхналагічны ўзровень прадукцыі, якая выпускаецца беларускімі прадпрыемствамі (Маладзечна – не выключэнне), але становішча эканомікі ў цэлым. І Маладзечна тут таксама не выключэнне. Рэальны стан эканомікі кожны адчувае сваімі рэцэптарамі. Але фізічнае адчуванне не можа быць крытэрыем ацэнкі. І тут на дапамогу павінна прыйсці статыстыка.

Сёлетні год – не самы ўдалы для эканомікі Маладзечна, калі глядзець на яе скрозь прызму афіцыйнай статыстыкі. Тым больш – праз прызму даўно састарэлай методыкі аналізу яе стану. Гаворка ідзе пра так званую “тэмпоўку“ – аналіз, дзе за галоўны паказчык бярэцца тэмп росту аб’ёмаў вытворчасці ў параўнанні з мінулымі перыядамі. За восем месяцаў гэтага года тэмп росту аб’ёмаў вытворчасці ў прамысловасці горада, скажам, склаў 101,3% пры прагнозе 105%. Спажывецкіх тавараў – 104,5% пры прагнозе 107%. Калі гаварыць пра паасобныя прадпрыемствы, то гэты паказчык часам не перавышае 50%.

У эканоміцы справы дрэнь сапраўды. Але “тэмпоўка“ не можа тут быць эфектыўнай у якасці тэрмометра па некалькіх прычынах.

Шмат прадпрыемстваў не ўдзельнічаюць у гэтай статыстыцы. Найчасцей – дробныя прыватныя вытворцы. Вельмі відавочна такая статыстычная “дзірка“ ў гандлі. Гандлюе прыватная крама, і вельмі паспяхова, мясам, мае пастаянных пакупнікоў, ёсць сапраўдныя тэмпы росту. Але па логіцы афіцыйнай, яна толькі шкодзіць гораду, бо вынікі яе работы не ўлічваюцца статыстыкай.

Па-другое. Чакаемыя паказчыкі навязваюцца гораду ў цэлым і паасобным прадпрыемствам зверху. Пра гэта гавораць дырэктары прадпрыемстваў, на гэта спасылаюцца ў калідорах мясцовай улады.

Па-трэцяе. Сёлетні лідэр у тэмпах росту амаль стопрацэнтна, гаворачы мовай спорту, на наступны год становіцца аўтсайдэрам. Вельмі высока падняў для сябе планку.

Няўжо статыстыка настолькі хворая, што для яе трэба рыхтаваць дамавіну? Не. На самой справе больш яскрава пра становішча эканомікі могуць сказаць іншыя паказчыкі. Не тэмпы росту, а аб’ём вытворчасці, дэбіторская і крэдыторская запазычанасці... Зарплата, урэшце.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Жнівень фінішаваў са знакам «мінус»

**Аналіз жыцця ў Беларусі і ў свеце аказаўся цалкам адмоўным. Больш пашанцавала тым, хто жнівеньскія дні правёў на спякотным пляжы, калі і не на далёкім іспанкім узбярэжжы, то хоць бы ў час водпуску ў Крыме.**

## Танга вакол рубля

Увесь жнівень працягваліся спрэчкі палітычных дзеячаў Беларусі і Украіны наконт увядзення з 1 студзеня 2005 года ў якасці адзінай валюты расійскага рубля. На канкрэтную прапанову Пуціна аб увядзенні адзінай валюты А.Лукашэнка папярэдне запатрабаваў ад свайго расійскага калегі выканаць рад умоў – рэальнага, а не на паперы, функцыяніравання адзінай эканамічнай прасторы з роўнымі ўмовамі для суб’ектаў гаспадарання абедзвюх краін і прыняцця Канстытуцыйнага акта саюзнай дзяржавы. Аднак эканоміка аказалася мацнейшай за палітыку, тым больш за эмоцыі. Канцэрн “Белнафтахім” і ўрад у цэлым усімі сіламі дапамагалі хімічным гігантам, але гэта быў толькі кароткачасовы эфект, бо праблемы накопліваліся. Ва ўмовах поўнай залежнасці ад знешніх пастаўшчыкоў сыравіны і збыту і крайняй неабходнасці ў тэрміновай рэканструкцыі прадпрыемствы аказаліся без грошай. Пастаўляць сыравіну на нашы заводы па ўнутраных цэнах расійскія кампаніі згодны толькі пры ўмове атрымання долі ў статутных капіталах беларускіх нафтагігантаў. Таму расійскія партнёры настойваюць на пакупцы кантрольных пакетаў акцый па льготных цэнах. І вось у жніўні, мабыць, лёд крануўся – урад саспеў да іх продажу.

Як звычайна, прайшоў чарговы ўборачны сельгасактыў, на якім прэзідэнт зноў распякаў сваіх падначаленых міністраў за нізкія тэмпы ўборкі і за высокі сабекошт прадукцыі. Лукашэнка запатрабаваў не дапускаць павышэння цэн. Лён, цукровыя буракі і піваварны ячмень у гэтым сезоне сталі прыярытэтнымі культурамі. У жніўні таксама аб’явілі, што кожны месяц да канца года будуць павышацца акцызныя падаткі і, адпаведна, цэны на алкагольную прадукцыю.

У жніўні кадравая чахарда ў верхнім эшалоне ўлады працягвалася. Былы прэм’ер **Г.Навіцкі** ўзначаліў Савет Рэспублікі нашага парламента. Пасля двухтыднёвага рэктарства ў Беларускім агратэхнічным універсітэце адным з намеснікаў кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі стаў **А.Папкоў.**

## Лепш нерухомасць

У жніўні ўкладчыкі шукалі альтэрнатыўныя месцы, акрамя банкаў, для ўкладання грошай, бо працягвалася зніжэнне даходнасці банкаўскіх дэпазітаў. Гэта натуральна, бо працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах скаціліся да 26-27% гадавых.

У сувязі з тым, што патрабаванне кіраўніцтва краіны зрабіць таннейшымі крэдыты для нацыянальнага вытворцы застаецца самым галоўным, далейшае падзенне ставак да ўзроўню 24% гадавых лёгка прадказваецца. З улікам інфляцыі і дэвальвацыі такія стаўкі прынясуць даход менш за 1% у месяц. Альтэрнатывай для патэнцыяльных інвестараў можа стаць нерухомасць. За год цэны на кватэры падняліся ў сярэднім на 10%. Сёння за 10 тысяч долараў 2-пакаёвую кватэру з маленькай кухняй і прахаднымі пакоямі можна знайсці толькі на першым паверсе.

## Коратка аб іншым

**Былы начальнік Беларускай чыгункі В.Рахманько па рашэнні суда быў прызнаны вінаватым па некаторых артыкулах і прыгавораны да 9 месяцаў “хіміі”.**

У канцы жніўня на піўзаводе “Крыніца” завяршылася рэканструкцыя. Уладальнікам завода з’яўляецца “Прыорбанк”, які атрымаў у залог у давернае ўпраўленне кантрольны пакет акцый. За лета рэзка вырасла цана піва. Сёння бутэлька мінскага піва каштуе больш за 1 тысячу рублёў, маладзечанскае піва захавала ранейшую цану – 640-660 рублёў.

**Абавязковае прымяненне прадпрымальнікамі касавых апаратаў адкладзена да лістапада 2003 года.**

**Гандаль дарагімі таварамі (футра, скура, мэбля, дываны, бытавая тэхніка, тэлерадыётавары) пераносіцца ў гандлёвыя цэнтры.**

Па выніках праверкі выкарыстання бюджэтных сродкаў на нядаўна здадзенай Мінскай кальцавой аўтадарозе ўстаноўлена прымяненне няправільных цэн і каэфіцыентаў, што прывяло да завышэння кошту работ.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**



**Сярэдні памер заработнай платы па Маладзечне за ліпень (тыс. руб.)**

| | |
|---|---|
| прамысловасць | 257,8 |
| будаўніцтва | 334,7 |
| транспарт | 220,8 |
| гандаль і грам. харчаванне | 146,6 |
| бытавое абслугоўванне | 169,2 |
| ахова здароўя | 221,9 |
| адукацыя | 179,4 |

50 100 150 200 250 300

**Курс беларускага рубля за апошні год быў блізкім да стабільнага. Расійскі ж так і не стаў узорам трываласці і надзейнасці. Што б ні казаў Пуцін аб агульнай валюце – расійскі рубель ніколі не будзе аналагам еўра толькі з той прычыны, што ўмовы манетарнай палітыкі ў магчымым саюзе будуць дыктавацца Масквой, а не саюзам роўных, якім стала еўрапейская супольнасць. Ды і там, у Еўропе, не ўсе прымаюць еўра. Ніколі на агульную валюту не пойдзе кансерватыўная Вялікабрытанія, нядаўна планам пераходу на еўра сваёй эканомікі сказалі цвёрдае “Не!“ шведы. Так што пакуль лічыце свае беларускія рублікі, якія б яны ні былі.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 11.09 руб. | 18.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2097,00 | 2102,00 |
| Еўра | 2354,30 | 2348,56 |
| Злоты | 528,81 | 524,06 |
| Літ | 681,75 | 680,30 |
| Расійскі рубель | 68,46 | 68,51 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2100/2120 | 2100/2120 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 10.09 | 17.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 12500 | 12500 |
| Сасіскі, 1 кг | 4130 | 4200 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 800 | 780 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1100 | 1100 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 460 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 870 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 250 | 250 |
| Морква, 1 кг | 500 | 500 |
| Лімоны, 1 кг | 1850 | 1800 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1900 |
| Памідоры, 1 кг | 800 | 900 |
| Перац, 1 кг | 800 | 750 |
| Кавуны, 1 кг | 450 | 450 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 750 | 730 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1800 | 1700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 2600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |
| Брусніцы, 5-літр. вядро | 13000 | 13000 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | – | 12000 |

■ СМІ

# Прэмія Завадскага

**Мінск. Прэміі імя Дзмітрыя Завадскага ўручаць сёння беларускім журналістам падчас Дня зачыненых газет. 19 верасня грамадскае аб'яднанне «Беларуская асацыяцыя журналістаў» праводзіць «Дзень зачыненых газет» — акцыю салідарнасці з беларускімі журналістамі.**

На атрыманне прэміі сёлета, гаворыцца ў паведамленні Беларускай асацыяцыі журналістаў, вылучаны рэдакцыя "Белорусской деловой газеты" і фотакарэспандэнты інфармацыйных агенцтваў "Асашэйтэд прэс" і "Рэйтэр" Сяргей Грыц і Васіль Фядосенка.

— Адчуванне двайстае... Атрыманне прэміі, гэта, канечне, заўжды прыемна, – каментуе гэтую падзею фотакор Сяргей Грыц. – А з іншага боку... Я быў знаёмы з Дзімай, а цяпер вось удастоены прэміі, якая носіць ягонае імя.

Павел Шарамет, кіраўнік аддзела спецпраектаў інфармацыйнай дырэкцыі Першага канала, раней карэспандэнт ОРТ (з ім у пары і працаваў тэлеаператар Дзмітрый Завадскі) падкрэслівае:

– З–за таго, што ў Беларусі назіраюцца відавочныя праблемы са свабодай слова, то ўручэнне такой прэміі – гэта і напамінак аб нашым калегу, і жэст падтрымкі незалежных журналістаў у Беларусі.



Фота з архіва "РГ".

Пакуль прэмія імя Дзмітрыя Завадскага ўручаецца толькі беларускім журналістам. У Беларусі ён жыў, працаваў і знік. Аднак не выключана, што ў далейшым гэта ўзнагарода стане міжнароднай і будзе прысуджацца журналістам, якія адстойваюць свабоду слова ў сябе на радзіме.

Першымі лаўрэатамі прэміі імя Дз. Завадскага летась сталі тэлеаператары, якія працуюць у Беларусі: Сяргей Гельбах – ОРТ, Сяргей Пушкін – РТР, Канстанцін Марозаў – НТВ, Уладзімір Андронаў – ТВ-6 і Уладзімір Бабарыка – "Рэйтэр".

Акрамя прадстаўнікоў беларускай недзяржаўнай прэсы, у акцыі возьмуць удзел міжнародныя арганізацыі — «Article 19», украінскі Інстытут масавай інфармацыі, малдаўскі незалежны цэнтр журналістыкі, расійскі цэнтр экстрэмальнай журналістыкі і Саюз журналістаў Літвы.

**17 снежня 1997 года – 21 студзеня 1998 года ў прыгранічных Ашмянах адбыўся суд над работнікамі беларускага бюро ОРТ Дзмітрыем Завадскім і Паўлам Шараметам. Журналісты абвінавачваліся і былі пакараныя за незаконнае, на думку ўлад, перасячэнне беларуска–літоўскай граніцы. Праз некаторы час Дзмітрый Завадскі бясследна знік і па сённяшні лёс яго невядомы. Ужо другі год запар уручаецца прэмія яго імя. Сёлета гэта адбываецца 19 верасня.**

У межах Дня запланавана ўручэнне беларускім журналістам прэміі імя Дзмітрыя Завадскага, заснаванай расійскім «1-м телеканалам». Акрамя таго, у фае канферэнц-залы гатэля «Беларусь» пройдзе выстаўка зачыненых газет, адбудзецца дэманстрацыя відэаматэрыялаў, прысвечаных працы беларускіх недзяржаўных СМІ.

**Аляксей ШЭІН, БелаПАН, аддзел інфармацыі "РГ".**

■ РЭДАКЦЫІ АДКАЗВАЮЦЬ

## Навядзём парадак

**МАЛАДЗЕЧНА. У цырульні "Чараўніца" па вуліцы Прытыцкага запахне адэкалонам і ўзмоцніцца кантроль за працай майстроў.**

Такі сэнс адказу на публікацыю ў "Рэгіянальнай газеце" ад 29 жніўня (№ 35) "Цырульні розныя бываюць". У матэрыяле гаварылася пра тое, што ў гэтай установе, якая належыць камунальнаму унітарнаму прадпрыемству "Маладзечнабыт", своечасова не прыбіраюцца рабочыя месцы, не выконваюцца патрабаванні ў галіне касавай дысцыпліны (кліентам не выдаецца касавы чэк), адсутнічаюць такія сродкі гігіены, як адэкалон.

Адміністрацыя "Маладзечнабыту", – гаворыцца ў афіцыйным адказе на адрас рэдакцыі дырэктара прадпрыемства Л.Белашовай,– паведамляе, што скарга (аўтара публікацыі – рэд.) прызнаная абгрунтаванай. Адміністрацыя праз рэдакцыю газеты прыносіць свае прабачэнні Івану Касяку за прынесеныя няўручнасці пры абслугоўванні.

...Цырульніку Людміле Аксёнавай аб'яўлена вымова за нізкую культуру абслугоўвання, майстру Яўгеніі Манькоўскай аб'яўленая вымова за слабы кантроль за працай цырульнікаў, касіраў, абслугоўваючага персаналу, а таксама недастатковае і несвоечасовае забеспячэнне цырульнікаў хімікатамі, парфумай.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ КРЫМІНАЛ

## Скралі «БМВ» Селязнёва

**Падчас наведвання спікерам Дзяржаўнай думы Расіі, старшынёй Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі Генадзем Селязнёвым 16 верасня ў Магілёве беларуска-расійскага універсітэта адбыўся інцыдэнт.**

Як паведаміў БелаПАН у прэс-службе МУС Беларусі, падчас знаходжання гасцей у зале універсітэта адзін са студэнтаў ВНУ, знаходзячыся ў нецвярозым стане, выкраў «БМВ-525» — галаўную машыну міліцэйскага суправаджэння картэжа спікера Дзяржадумы. За зламыснікам была арганізавана пагоня. Спыніць яго ўдалося на тэрыторыі горада. Пры гэтым «БМВ» сутыкнуўся з аўтамабілем «Ніва». У выніку дарожна-транспартнага здарэння ніхто не пацярпеў.

Паводле інфармацыі прэсслужбы МУС, студэнт затрыманы. У адносінах да яго распачата крымінальная справа па артыкулу 214 (выкраданне аўтадарожнага транспартнага сродку), што прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды тэрмінам ад 5 да 7 гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

■ СЛУЖБА «01»

## Для бяспекі грамадзян

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета за 8 месяцаў у горадзе і раёне адбылося 95 пажараў, з іх 83 былі ў жылых дамах і надворных пабудовах грамадзян.**

У выніку пажараў знішчана 30 пабудоў, 4 адзінкі тэхнікі, 50 тон грубых кармоў, страты склалі 224 млн.521 тыс. рублёў. У большасці выпадкаў прычынамі пажараў сталі неасцярожнае абыходжанне з агнём, парушэнне правілаў пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі электраабсталявання, пячнога ацяплення, падпалы. Практычна ўсе пажары, гібель людзей у іх адбываюцца ў дамах, дзе жывуць людзі, якія злоўжываюць спіртнымі напіткамі, маламаёмныя грамадзяне. 90% выпадкаў гібелі – гэта курэнне ў нецвярозым стане.

У мінулым годзе і сёлета праводзілася некаторая работа па выкананні мерапрыемстваў гэтай праграмы. Так, за кошт сродкаў гарадскіх і раённых арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў (СП ТАА "МСВЗ Крышталь-2", РУСВП "Маладзечанская птушкафабрыка"; ПРУП "Беразінскі", Красненскі льнозавод, ПРУП "Завод парашковай металургіі", СП "Мінскі мэблевы цэнтр", ААТ "Гармалзавод", РУП "Піўзавод", РУП "Маладзечнанафтапрадукт", ААТ "Камбінат хлебапрадуктаў") набыта і ўстаноўлена ў дамах малазабяспечанай катэгорыі грамадзян больш за 700 аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў. Аднак некаторыя прадпрыемствы і арганізацыі (ААТ "Забудова", ААТ "Белмастацкераміка", керамічны завод, кансервавы завод, ААТ "Электрамодуль", ААТ "Маладзечнамэбля", ЗАТ "Унікаб", ААТ "Маладзечнаміжрайгаз") рашэнні выканаўчых камітэтаў не выконваюць.

А тым часам толькі сёлета ў жылых дамах грамадзян неабходна ўстанавіць 500 аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў, адрамантаваць 530 печаў, 600 электраправодак за кошт сродкаў мясцовага бюджэту, прадпрыемстваў, арганізацый раёна.

Хутка наступіць ацяпляльны сезон. Таму ў кватэрах і жылых дамах з пячным ацяпленнем неабходна звярнуць увагу на выкананне патрабаванняў пажарнай бяспекі.

Пажары часцей за ўсё адбываюцца з-за перагрэву печаў, з'яўлення ў цаглянай кладцы трэшчын, у выніку прымянення для распальвання гаручых і лёгкіх на загаранне вадкасцей, выпадзення з топкі ці попельніка жару. У моцныя маразы печы паляць доўгі час, у выніку адбываецца перагрэў некаторых частак печы. Калі гэтыя часткі сутыкаюцца з драўлянымі канструкцыямі будынка, то пажар непазбежны. Таму рэкамендуецца паліць печ 2-3 разы на дзень не больш за 1,5 гадзіны, а не адзін раз доўгі час. Каля печаў, на прыпечку нельга сушыць дровы, вешаць бялізну, іншыя гаручыя матэрыялы. Нельга выкідваць жар і попел паблізу пабудоў. Патрабаванні, згадзіцеся простыя. Прытрымлівайцеся іх і не будзеце ведаць бяды.

**Андрэй КАЙКО, інспектар ГПН гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

# Камп'ютэрны рэгрэс

**Цікавая сітуацыя склалася ў Маладзечне – за апошні год у горадзе было закрыта шэсць камп'ютэрных клубаў. Прычыны самыя розныя: ад адсутнасці дазволу на работу круглыя суткі да банальных праблем з непамерна высокай арэнднай платай.**

Першы маладзечанскі камп'ютэрны клуб з'явіўся пяць гадоў таму на Цэнтральнай плошчы. Праз нейкі час да яго далучыліся новыя клубы, Інтэрнэт-кафэ. І раптам, першая ластаўка – закрываецца клуб "Action-zone". Прычына – адсутнасць дазволу на кругласутачную працу клуба. У "LMD" дазвол быў, але ж там гулялі ноччу непаўналетнія. Парушылі правілы адны, а папала ўсім адразу. У клубах былі накладзены жорсткі, але ж смехатворны ліміт на дазволены час правядзення моладзі за камп'ютэрам. У ім зазначалася, што толькі з васемнаццаці год можна працаваць/гуляць за камп'ютэрам больш за гадзіну. Смешна? Не вельмі. Далей – болей. Студэнтам таксама нельга заставацца нанач у клубе. Маўляў, яны вучыцца павінны. А калі ж пагуляць у любімую гульню з сябрамі, як не ноччу. Днём – вучоба, а вечарам – праца. На гэтым абсурд не заканчваецца...

Пасля інцыдэнту ў Гомелі з закрыццём клуба на падставе жорсткасці, якая прапагандуецца ў гульнях, мясцовыя ўлады вырашылі зрабіць нешта падобнае, толькі больш "арыгінальнае". Спіс з нерэкамендуемымі, а то і забароненымі папулярнымі гульнямі – такога я не бачыў нават у сталіцы.

Другая прычына, па якой закрыліся некаторыя клубы, як, напрыклад, "Игромания", – арэндная плата. Пасля прыняцця "Дэкрэту прэзідэнта РБ ад 27 студзеня 2003 г. на адзіны падатак" яна павялічылася ўдвая. Прытым няма розніцы — ці ў клубе 11 камп'ютэраў, ці 60 — плаці адзіны падатак альбо саступі месца мацнейшаму. І тут можна зразумець улады. Але ж мы да канца не ўсведамляем таго, што каму-каму, а камп'ютэрным клубам трэба ісці насустрач у першую чаргу.

Камп'ютэрная гульня – гэта тая база, што рыхтуе моладзь да сур'ёзнай працы за камп'ютэрам. Сёння маецца цэлы клас прафесій, цыкл якіх увесь час праходзіць толькі за экранам манітора. Гэта праграміраванне і бухгалтэрыя, веб-дызайн і вёрстка, праекціроўка і відыёмантаж. Ды і на простую больш-менш аплачваемую працу возьмуць чалавека з веданнем камп'ютэра ды замежнай мовы, якую, дарэчы, многія мае знаёмыя падтрымліваць дзякуючы камп'ютэрным гульням, а не слабым заняткам у БДУ. Такім чынам, гульня – гэта лепшы спосаб падрыхтавацца сябе да будучай "дарослай" працы за камп'ютэрам на сёння.

Акрамя таго, камп'ютэрны клуб дае многім людзям тую падтрымку, любоў і сяброўства, якой ім так не хапае ў сям'і. Клубная каманда – гэта магутны калектыў, члены якога гатовы прыйсці на дапамогу адзін аднаму ў любы час. Асабіста ведаю гісторыю, як такія людзі не далі звярнуць на крывую дарогу хлопцу, у сям'і якога любілі выпіць.

Дарэчы, і ў Маладзечне ёсць клуб, арганізатары якога пастаянна ідуць насустрач моладзі – "Бамонд". Там пануе па-сапраўднаму клубная атмасфера. І без таго маленькі (усяго 14 камп'ютэраў), ён трэніруе каманду з 11 чалавек. І гэта здарова, бо зараз Беларусь мае ніякае становішча на кіберспартыўнай арэне свету і нам патрэбны моцныя гульцы па ўсёй краіне. Акрамя гэтага, клуб актыўна супрацоўнічае са школай, прапануючы ёй бясплатны машынны час, з цэнтрам сацыяльнага забеспячэння сям'і і школы, фінансава дапамагае футбольнай камандзе "Маладзечна". А ў самых, дарэчы, праблем вышэй галавы...

Усё вышэйнапісанае не трэба ўспрымаць як рэкламу, альбо прапаганду камп'ютэрных клубаў. Проста мне хацелася, каб людзі перасталі адносіцца да "геймераў", як да "прыдуркаватых зомбі", што нічога не бачаць далей экрана манітора. Большасць з іх – цікавыя, адукаваныя людзі.

Раней моладзь захаплялася рок-музыкай. Гэта здавалася агрэсіўным, амаральным, дзікім. І нічога — усе выраслі, пазаканчвалі ВНУ – "перахварэлі". Тое ж самае і з камп'ютэрнымі клубамі – гэта ўсё часовае, хоць і на дзіва захапляючае. Проста з часам падлетак зразумее, што дзяўчаты сталі для яго больш цікавымі, чым гульня на камп'ютэры, – і праблема знікне сама па сабе. Затое навыкі працы за камп'ютэрам, атрыманыя ім у клубе, дапамогуць у будучым. Як-ніяк жывём у эпоху інфармацыі.

**Ян АКУЛІН.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Вучымся на «10»

**Школьная рэформа не пакінула раўнадушным, бадай, ніводнага беларуса. Асабліва ўскалыхнула грамадскасць увядзенне з мінулага навучальнага года новай сістэмы ацэнкі ведаў. Яно і не дзіўна, усе мы прызвычаіліся да таго, што лепшай адзнакай у школе з'яўляецца «пяцёрка», а тут «дзевяткі», «дзесяткі». Скажаце, жыццё не стаіць на месцы, змяняецца, вось і ў адукацыі трэба нешта мяняць. Згодны, трэба. Пытанне толькі: што і як мяняць?**



Лета праляцела, як адно імгненне. 1 верасня званок зноў паклікаў на ўрок. А так хацелася б яшчэ пагуляць... Фота Марыны СЛІЖ.

Калі паслухаеш выказванні нашых педагагічных чыноўнікаў наконт 10-бальнай сістэмы адзнак, то амаль усе яны – "за". Пры гэтым, напрыклад, падкрэсліваецца, што новая сістэма – больш аб'ектыўная і гуманная. Але ж сама па сабе сістэма не можа быць аб'ектыўнай. Большая шкала адзнак толькі дае магчымасць больш дакладна ацаніць дасягненні таго ці іншага вучня. Аб'ектыўнасць у дадзеным выпадку будзе залежаць ад настаўніка, ад таго, як ён зможа (ці захоча) карыстацца новай сістэмай. Паводле нарматыўных патрабаванняў, даволі цяжка вызначыць, за якія поспехі ці недахопы выстаўляецца канкрэтная адзнака. Напрыклад, чым адрозніваецца адзнака "3" (за 1-2 грубыя памылкі) ад адзнакі "5" (за 1-2 істотныя памылкі)? Не кажучы ўжо пра памежныя адзнакі. Так што разумейце, настаўнікі (таксама вучні і бацькі), як хочаце.

Між тым, новая сістэма ацэнкі ведаў патрабуе выкарыстання рознаўзроўневых пытанняў і заданняў, якіх у сучасных падручніках няма, і таму настаўнікі вымушаны падбіраць іх з розных крыніц у залежнасці ад асабістых разуменняў крытэрыяў ацэнкі. Відавочна, што суб'ектывізму тут не пазбегнуць.

Больш гуманнай новую сістэму лічаць хутчэй за ўсё таму, што яна выключыла нездавальняючыя адзнакі, і таму цяпер, маўляў, у школе няма дрэнных вучняў. Бясспрэчна, гэта вельмі добра, калі двойка перастала несці карную функцыю, што негатыўна ўздзейнічала на псіхіку дзяцей. Але ж праблема да канца не вырашана. Скажыце, як называюць вучня, які вучыцца зараз на 1 і 2 балы? А "0" – гэта добрая адзнака ці дрэнная? Ці ж гуманна ставіць нуль?

Дарэчы, па словах некаторых настаўнікаў, адміністрацыі школ ужо зараз настойліва рэкамендуюць не выстаўляць вучням 0, 1 і 2 балы, каб не псаваць агульную карціну паспяховасці па навучальнай установе. І калі гэты працэс не спыніцца, то хутка 10-бальная сістэма ацэнкі можа стаць па сутнасці 8-бальнай.

Ці не прасцей было б удасканаліць (пашырыць) ранейшую сістэму, дадаўшы да кожнай палову бала: "2,5", "3", "3,5", "4", "4,5", "5". Двойку не выстаўляць наогул па вышэйзгаданай прычыне, а для ацэнкі поспехаў адораных вучняў магчыма прымяненне адзнак "5,5" і "6". Такая сістэма, я думаю, была б зразумелая і настаўнікам, і вучням, і бацькам, і нават дзядулям з бабулямі. Многія з іх пазбеглі б псіхалагічнага дыскамфорту. А колькі было б зэканомлена народных грошай, якія пайшлі на распрацоўку і ўкараненне новай сістэмы і якіх так не дастае нашым школам.

Уявіце сабе, колькі часу і нерваў павінны патраціць настаўнік на падбор і размеркаванне пытанняў па ўзроўнях, на апытанне вучняў, згодна з іх узроўнем ведаў, на абгрунтаванне кожнай выстаўленай адзнакі... А калі ж вучыць?

Такая роля, якая надаецца цяпер ацэнцы ведаў вучняў, стварае ўражанне, што галоўная праблема нашай адукацыі заключаецца не ў тым, як навучыць, а ў тым, як ацаніць. Як быццам усе забыліся, што на першы план павінна ставіцца творчае развіццё вучня, яго лагічнае мысленне, яго ўменне здабываць веды. Школа павінна таксама фарміраваць у вучня пачуццё асабістай унікальнасці і вартасці, якія не залежаць ад колькасці атрыманых балаў. Карацей кажучы, галоўнае – навучыць і цаніць, а не ацаніць.

**Мікалай ЛІПСКІ, настаўнік.**

■ КОНКУРСЫ

# Пасябравалі з «Кенгуру»




**МАЛАДЗЕЧНА. Больш дваццаці гадоў таму аўстралійскі выкладчык прыдумаў матэматычную гульню-конкурс, у якой усе ўдзельнікі ў адзін і той жа дзень, у адзін і той жа час атрымлівалі заданне, якое заключалася ў тым, каб за аднолькавы для ўсіх прамежак часу рашыць як мага больш задач, адказаць на большую колькасць пытанняў і атрымаць як мага больш балаў.**

Папулярнасць яго пераўзышла ўсе чаканні: больш паловы ўсіх школьнікаў Аўстраліі штогод прымалі ў ім удзел. У 1991 годзе масавая "эпідэмія" гэтай гульні з Аўстраліі пранікла ў Еўропу, а з 1994 года атрымала статус міжнароднай. На сённяшні дзень у ёй удзельнічаюць амаль 3 мільёны школьнікаў з 30 краін Еўропы і Лацінскай Амерыкі. Конкурс даўно ўнесены ў кнігу рэкордаў Гінеса як самы масавы конкурс у свеце.

У 1994 годзе дзякуючы пасольству Францыі ў Рэспубліцы Беларусь навучэнцы мінскіх школ №№ 6, 19, 20, 199 і ліцэя БДУ упершыню ўключыліся ў конкурс. Яго арганізатарамі сталі тагачасная рэспубліканская завочная фізіка-матэматычная школа і хімічная школа Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і створанае пазней грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя "Конкурс", якое стала адным з актыўных членаў еўрапейскай асацыяцыі "Кенгуру без межаў".

У гэтым годзе ў "Кенгуру-2003" прынялі ўдзел больш за 35 тысяч вучняў 1-11 класаў з 1217 навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь. Найбольшую актыўнасць праявілі школьнікі Віцебска, Гомеля, Брэста, Наваполацка, Оршы, Салігорска, Барысава, іншых гарадоў. Арганізатары адзначылі таксама, што добра праходзіць конкурс у Наваполацку, Светлагорску, Рэчыцы, Маладзечне. Масавы і зацікаўлены ўдзел школьнікаў у конкурсе немагчымы без ініцыятывы настаўнікаў, арганізатараў і спецыялістаў аддзелаў адукацыі, дзякуючы энтузіязму і арганізатарскім здольнасцям якіх "Кенгуру" не толькі жыве, але і пашырае кола новых сяброў.

Ля вытокаў яго ў нашым горадзе стаіць настаўніца матэматыкі Маладзечанскай беларускай гімназіі **Зоя Гаравая**. Яшчэ будучы метадыстам гарадскога аддзела адукацыі, падахвоціла яна вучняў да ўдзелу ў "Кенгуру". Сама з'ездзіла ў сталіцу, сама, на базе вышэй названай установы, сабрала ўпершыню школьнікаў. Дзецям конкурс спадабаўся. У бягучым годзе сцены гімназіі ўжо не змаглі змясціць усіх жадаючых прыняць у ім ўдзел. Таму давялося задзейнічаць яшчэ і класныя пакоі сярэдняй школы № 6.

Вынікі вучні паказалі нядрэнныя. У адной толькі беларускай гімназіі з 47-мі ўдзельнікаў гарадскіх спаборніцтваў "Кенгуру-2003" прызавыя месцы занялі 14. "Золата" ў вучня 11 класа **Сяргея Баранава**, васьмікласніка **Уладзіміра Бурылава**, а таксама вучаніцы 4 класа **Святланы Маркелавай**.

Усе дзеці, што занялі прызавыя месцы, былі ўзнагароджаны дадатковымі прызамі і падпіскамі на дзіцячыя выданні часопіса для школьнікаў "Рэпетытар".

**Марына СЛІЖ.**

# Беларускамоўныя школы знікаюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Сярэднія школы №1 і 9, а таксама Маладзечанская беларуская гімназія, у якіх навучальны працэс вядзецца на беларускай мове, пачалі набіраць рускамоўныя класы.**

Адміністрацыя дзевятай школы патлумачыла гэта тым, што не ўсе дзеці жадаюць вучыцца на роднай мове. У першай школе і гімназіі некаторыя класы працуюць па сістэме развіваючага навучання, распрацаванай на Украіне. У Беларусі карыстаюцца расійскімі падручнікамі, таму і навучанне вядзецца на рускай мове.

**Валянцін ЦІШКО.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Дрэнная памяць

Люблю размаўляць з дзецьмі. Яны не ўмеюць падманваць. З дзіцячай непасрэднасцю скажуць, што дрэнна – гэта дрэнна, а добра – гэта добра.

І вось аднойчы мне распавялі такую гісторыю.

Дзяўчынка прыйшла з садзіка, у які папярэдне не вельмі хацела ісці, таму ўсю дарогу моцна плакала. Маці дзяўчынкі разззлавалася, таму гук перайшоў на ультрагук і паступова зусім знік. У выхаваўчых мэтах жанчына яшчэ дадала, што, калі малая будзе сябе так паводзіць, то не бачыць ёй ні цукерак, ні падарункаў. Але ж маці ёсць маці. Пасля працы зайшла ў краму і накупіла для любай дачушкі смакаты.

Дзіця адрэагавала неадназначна:

— Але ж якая ў цябе, мама, дрэнная памяць. Ты ж сёння казала, што мне нічога ніколі не купіш! Ды так сур'ёзна, што я ўжо амаль паверыла!

Як кажуць, сказаць ужо не было чаго. Таму ўсе прысутныя засмяяліся. І цяпер, калі кабета пачынае заводзіцца – чаго ў жыцці не бывае, – члены сям'і ёй нагадваюць пра кепскую памяць.

І што самае цікавае, успамінаючы гэтую гісторыю, жанчына супакойваецца. Бо нашы дзеці з'яўляюцца самымі сур'ёзнымі суддзямі ва ўсіх нашых дзеяннях.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ШКОЛА

# Ашмянцы – людзі здаровыя

## Сярэдняя школа №2, бы эксперыментальная пляцоўка

**АШМЯНЫ. Дзеці хваляваліся. Упершыню ім, вучням другой ашмянскай школы, трэба было пераканаць дарослых: штосьці яны ведаюць і могуць лепш, чым дасведчаныя. І не проста пераканаць, а паказаць і навучыць, як трэба жыць, каб зберагчы здароўе і бадзёрасць.**

У мінулую пятніцу ў Ашмянах прайшоў семінар для намеснікаў старшынь райвыканкомаў Гродзеншчыны па пытаннях сацыяльнага жыцця і інфармавання насельніцтва. Ашмянцы паказалі гасцям тое, што зроблена ў раёне па фарміраванні здаровага ладу жыцця.

Маршрут семінара пачаўся ў другой гарадской школе. З раніцы тут панавала не звычайная для ўрокаў цішыня, а гучна грала музыка. Вучэбны дзень пачаўся з урока, якога не знойдзеш у школьных праграмах – з урока здароўя. У другой ашмянскай "Здаровы лад жыцця" выдзелены ў асобны курс. І вывучаюць яго ўсе – ад нясмелых пачаткоўцаў да ўпэўненых старшакласнікаў. Не проста слухаюць расказы настаўнікаў і пазнаюць жыццё па падручніках.

Дырэктар школы **Валянціна Чарняцова** не выпадкова папрасіла для выступлення пяць хвілін. «Хопіць, — сказала яна, перакананая, што лепш адзін раз пабачыць, чым сто разоў пачуць. – Здароўе, перш за ўсё, – лад жыцця, і толькі потым прадмет школьнай праграмы».

Дырэктар запрасіла гасцей паглядзець, што зроблена ў школе за два гады пасля таго, як другая ашмянская стала рэспубліканскай эксперыментальнай пляцоўкай па фарміраванні здаровага ладу жыцця. Тут добра абсталяваны спартыўная зала і стадыён, цікава праводзяцца кірмашы і марафоны здароўя.

Не пустуе фітабар, і нават сталоўка частуе дзяцей здаровымі і карыснымі стравамі.

У раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі сустракаліся з дактарамі-валеолагамі, у раённым тэрытарыяльным медыцынскім аб'яднанні спадабалася ідэя стварэння цэнтра здароўя – каб кожны здаровы чалавек мог прыйсці сюды пазаймацца на трэнажорах, зняць псіхічны стрэс, параіцца з псіхолагам . Цэны на такія прафілактычныя меры па кішэні нават небагатым ашмянцам.

У Ашмянскіх электрычных сетках зручна для рабочых абсталяваныя бытавыя і санітарныя памяшканні, наведзены парадак на тэрыторыі. Пра ўмовы працы таксама не забываюць. Таму і захворваемасць тут ніжэй, чым сярэдняя па ашмянскіх прадпрыемствах.

Ашмянцы паказалі гасцям, як можна з карысцю адпачываць. У цэнтры пазашкольнай работы наведалі гурткі па інтарэсах, у першай гарадской школе паглядзелі канцэрт двух узорных калектываў – фальклорнага "Званочкі" і эстраднага "Палёт". Забаўляльная праграма прадоўжылася ў раённым Доме культуры выступленнем тэатра танца і песні "Імпульс" і ансамбля цыганскай песні "Джана Рома".

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

# Грыбы вядомыя і невядомыя...

**Доўгі час грыбы адносілі да ніжэйшых раслін. Але многія батанікі з гэтым не пагадзіліся і ў выніку сваіх шматгадовых даследаванняў прыйшлі да высновы, што грыбам уласцівыя як прыкметы раслін, так і жывёл. Значыць, грыбы – асобае царства жывых арганізмаў.**

**Не кожны з нас ведае, напрыклад, што дрожджы – гэта аднаклетачныя грыбы, якія выкарыстоўваюцца пры выпечцы хлебных вырабаў і для зброджвання піва і віна. А колькі лекаў, сродкаў аховы раслін, карысных і смачных прадуктаў харчавання вырабляецца з дапамогай грыбоў.**

**Ёсць у грыбоў і адмоўныя якасці. Гэта перш за ўсё ядавітасць. Так, грыбамі былі атручаныя рымскі імператар Клаўдзій, папа Клімент VII, французскі кароль Карл VI і інш. Нават і цяпер некаторыя негрыцянскія плямёны ў Афрыцы робяць яд для стрэл з грыбоў.**



Іван Бялкоў «упаляваў» гэты грыб на паляне, якая з'яўляецца любімым месцам адпачынку маладзечанцаў і віляйчан.
Фота Святланы ЦІШКО.

## Як пазбегнуць атручвання грыбамі?

**З гэтай мэтай трэба збіраць толькі ядомыя, непашкоджаныя і не вельмі старыя грыбы. Спажываць іх толькі свежымі. Добра ачышчанымі, прамытымі і праваранымі ці прасмажанымі.**

**Бялкі, якія ўтрымліваюцца ў грыбах, пры старэнні іх хутка расшчапляюцца і ўтвараюць рэчывы, блізкія да рыбнага і трупнага яду.**

Акрамя таго, у старых грыбах нярэдка бываюць насякомыя і чарвякі, якія выдзяляюць яды.

**Пры гарачым сонечным надвор'і бялок грыба пад уздзеяннем высокай тэмпературы раскладаецца і ператвараецца ў яд, што пагражае чалавеку моцным атручваннем.**

Таму грыбамі, сапсаванымі высокай спякотай ці працяглымі дажджамі, можна атруціцца, нават калі сярод іх няма ніводнага ядавітага.

Каб такога не здарылася, перабірайце толькі што прынесеныя з лесу грыбы, выкідвайце старыя, сапсаваныя і якія выклікаюць падазрэнне. Не шкадуйце, што іх стане менш. Затое ў суп ці ў іншую страву не трапіць ядавітае рэчыва.

**Калі перабіраеце пласцілістыя, здымайце скурку, паколькі ў ёй утрымліваецца больш за ўсё шкодных і ядавітых рэчываў.**

Памятайце, што ў ніжняй частцы шапачак сыраежак, груздоў і нават апенек паміж пласцінкамі затрымліваюцца часткі глебы са спорамі батулінавай палачкі, якая вельмі ўстойлівая да кіпячэння.

**Пры дрэнным прамыванні і непрацяглым кіпячэнні грыбы з мікробамі трапляюць у герметычна закрытыя слоікі, дзе няма кіслароду, а канцэнтрацыя кіслаты і солі невысокая – тыя ўмовы,** якія патрэбныя для прарастання спор, бурнага развіцця батулінавай палачкі і выдзялення таксіну, які па моцы свайго дзеяння нават пераўзыходзіць многія бактэрыяльныя і хімічныя яды.

Значыць, калі не ўпэўненыя ў сваіх здольнасцях правільна замарынаваць ці пасаліць грыбы, то лепш іх сушыце.

**Зялёнкі ўтрымліваюць ядавітыя рэчавы, якія пры узаемадзеянні з алкаголем выклікаюць атручванне.**

## Хто сказаў, што вырас грыб за ноч?

**Грыбы ўтрымліваюць 84-92% вады і прыкладна 8-16% сухіх рэчываў, з якіх да 80% бялкоў. У сушаных белых грыбах бялкоў у 2 разы больш, чым у ялавічыне, і ў 3 разы больш, чым у рыбе. Лецыцін, які ўтрымліваецца ў грыбах, перашкаджае адкладанню халестэрыну ў арганізме чалавека.**

Супрацьпаказаныя грыбы людзям, якія пакутуюць ад захворванняў печані, нырак і ад запаленчых працэсаў у страўніку. Да 19-20 гадоў лепш устрымацца ад «ляснога мяса»: печань у чалавека фарміруецца да 18 год, і да гэтага ўзросту ёй цяжка перапрацоўваць бялок грыба. Дзецям да 3-х год наогул нельга есці грыбы.

### Як растуць грыбы?

...Асновай для развіцця грыба з'яўляюцца споры, вельмі дробныя – ад 3 да 200 мікрон у дыяметры. Калі яны трапляюць у спрыяльныя ўмовы, то прарастаюць і развіваюць тонкія ніці, сукупнасць якіх утварае грыбніцу (міцэлій). Пры неспрыяльных умовах надвор'я грыбніца можа знаходзіцца ў стадыі спакою, тады за лета не ўзнікне ніводнага грыба.

Многія лічаць, што грыбы вырастаюць за адны суткі і нават за ноч, але гэта не так. У час вучобы ў тэхнікуме мы назіралі за ростам грыбоў. Прыемна было бачыць, як на грыбніцы яшчэ ў зямлі з'яўлялася маленькая галоўка, а праз 3-4 гадзіны вылазіў на паверхню сапраўдны грыб-малютка. Прыкладна за 5-6 дзён пры дастатковай вільготнасці і ўмеранай тэмпературы баравік вырастаў да 8-10 см у вышыню. Заўважылі мы, што ў першыя гадзіны і дні хутчэй расце ножка, а на 3 і 4-ы дзень рост грыба ўверх замаруджваецца, затое шапачка вельмі хутка раздаецца ў бакі. Прычым ножка падаўжаецца ў асноўным за кошт верхняй часткі, таму больш грубая яна бывае каля зямлі. Бывала і такое, што грыбы быццам бы скамянелі. Прычына была ў разрыве сувязі з ніткачкамі грыбніцы-карміцелькі: ежа не паступае, грыб засыхае.

### Зразаць ці зрываць?

Б.П.Васількоў, вучоны эколаг, сцвярджае, што зразаць белы грыб зусім неабавязкова, і калі зрываць яго, то грыбніца ўсё роўна не пашкодзіцца.

Значыць, там, дзе растуць грыбы кучай, — іх лепш падразаць, а дзе па адным – асцярожна вырываць і ачышчаць грыбніцу нажом.

### Сушка грыбоў

Для сушкі адбіраюць нестарыя, свежыя грыбы. Іх перабіраюць і ачышчаюць ад прыстаўшай зямлі, лісцяў, праціраюць злёгку вільготнай анучкай, але не мыюць.

У белых грыбоў карані цалкам ці часткова адразаюць так, каб засталося не больш паловы ножкі. У падбярозавікаў і падасінавікаў карэнне не абразаюць, а ўвесь грыб разразаюць па вертыкалі папалам ці на 4 часткі. У смаржкоў і страчкоў зразаюць ніжнюю частку ножкі.

Сушаць грыбы ў рускай печы, духоўцы, электрадухоўцы. Засланку трохі адкрываюць, каб выходзіла вільгаць, якая выпараецца, бо інакш яны могуць запарыцца і пачарнець. Добра сушацца і нанізаныя на вяровачку і падвешаныя над кухоннай плітой. У спякотнае лета можна сушыць грыбы і на сонцы.

Пры ўсіх спосабах сушкі грыбы спачатку трэба правяліць пры тэмпературы 40-50 градусаў, а затым канчаткова дасушыць пры 60-75 градусах. Пры больш высокай тэмпературы пагаршаецца колер, смак і водар грыбоў.

### Радыяцыя і грыбы

Амаль не накопліваюць радыёактыўныя рэчывы **апенькі асеннія, парасонікі і дажджавікі**.

**Белыя грыбы, падбярозавікі, падасінавікі і лісічкі** адносяцца да сярэдненакапляльных.

**Грузды белы і чорны, ваўнянкі, зялёнкі, рыжыкі і сыраежкі** моцна накопліваюць радыёцэзій 137.

Грыбамі-акумулятарамі радыёцэзію з'яўляюцца **польскі грыб, махавік жоўта-буры, казляк**. Іх лепш наогул не збіраць.

Сабраныя грыбы трэба адразу ж праверыць на ступень забруджвання ў пункце радыякантролю. Перабраць іх, добра прамыць і адварыць у вялікай колькасці вады. Ваду пасля варкі зліць, а затым ужо гатаваць стравы. Бо толькі адно адварванне змяншае ўтрыманне цэзію ў 3-5 раз. Пры сушцы колькасць радыёнуклідаў амаль не змяншаецца. Таму сушыць трэба толькі чыстыя грыбы.

## Прыкметы адрознення неядомых грыбоў ад ядомых

**Бледная паганка** – смяротна ядавіты грыб. Вельмі падобная на мухамор. Шапачка спачатку званочкавая, а затым трохі выпуклая, белага, зеленаватага ці жаўтаватага колеру. Нявопытныя грыбнікі блытаюць яе з шампіньёнам. Трохі падобная бледная паганка і на зялёную сыраежку, але ў сыраежкі няма на ножцы патаўшчэння і няма махроў.

**Мухаморы**. Самым галоўным сярод іх з'яўляецца чырвоны. Акрамя яго, сустракаецца пантэрны мухамор з шэраватай ці зеленавата-бурай шапачкай і паганкападобны, які мае ў пачатку шарападобную, а затым выпуклую бледна-жоўтую, бывае зусім белую шапачку з белымі буйнымі шматкамі.

**Сатанінскі грыб** таксама ядавіты. За падабенства з баравіком яго называюць двайніком, а за ядавітасць – д'ябальскім, ці чортавым грыбам. Знешне падобны на баравік, але меншы за яго. Ёсць і адрозненні. Шапачка дасягае ў дыяметры ўсяго 7-8 см, у сырое надвор'е пакрываецца слізззю. Колер заўсёды цёмна-карычневы зверху, а знізу ці жоўта-чырвоны, ці крывава-чырвоны. Ножка хоць і тоўстая, але аранжавага колеру з чырвоным сеткавым рысункам каля зямлі. На зрэзе мякаць спачатку чырванее, а потым сінее.

**Жоўцевы грыб**. Па форме падобны на баравік, але трубчасты слой у гэтага грыба заўсёды брудна-ружовы. Ножка ўздутая, цёмная. Калі разламаць, то мякаць у баравіка застаецца белай, а ў жоўцевага ружавее. На смак жоўцевы грыб вельмі горкі.

Небяспечны грыб **энталома ядавітая**. Нават знешне непрыемны. Шапачка ў яго павіслая, з ружовымі пласцінкамі ўнізе. Трубачкі няправільнай формы, з вуглаватымі порамі. Ножка прамая ці сагнутая, аднаго колеру з шапачкай.

**Несапраўдныя апенькі** адрозніваюцца больш яркім колерам шапачкі, з жоўтым ці чырванаватым адценнем, і на ёй няма лускавінак. Важнае адрозненне, што ў сапраўдных маладых апенек шапачка закрыта белай плёначкай, якая пазней разрываецца, але сляды яе застаюцца на ножцы ў выглядзе махроў. Пласцінкі бурыя ці карычневыя.

**Перцавы грыб**. Вельмі падобны на казляка і жоўта-бурага махавіка. Распазнаць яго можна лёгка па жаўтавата-чырвонаму (вішнёва-чырвонаму) трубчастаму слою ніжняй часткі шапачкі. Мякаць злёгку чырванее на зломе, вельмі горкая, з перцавым смакам.

**Агнёўка альховая**. Падобная на асеннія апенькі і расце такімі ж групамі на пнях лісцёвых дрэў і каля іх, на высечках і ўзлесках у жніўні-кастрычніку. Шапачка выпуклая з бугарком. У цэнтры – буравата, а па краях – светла-жоўтая з зеленаватым адценнем і дробнымі валакністымі камячкамі паблізу краю і па краях. Пласцінкі спачатку бледна-жоўтыя, а затым вохрыстыя. Ножка доўгая, валакністая, аднаго колеру з шапачкай, знізу жоўта-бурая.

**Свінуха тонкая**. Па навейшых дадзеных аказалася ядавітай. У лісцёвых і сасновых лясах Беларусі расце вялікімі групамі. Шапачка мясістая, як толькі пачынае расці, выпуклая, а затым – плоская, у сярэдзіне – уціснутая, з моцна загнутым махрыстым краем. Спачатку цёмна-бурая, а пазней – вохрыста-бурая, іржавая. Мякаць жаўтаватая. У свінусе знойдзена рэчыва, якое, трапіўшы ў арганізм чалавека, дае штуршок да развіцця хвароб крыві і нырак.

Альбін МАКАРЭВІЧ.

# Дом адзінокіх сэрцаў

**ВІЛЕЙКА. Параненыя душы лечыць добразычлівасць. Людзі, што працуюць у Куранецкім доме-інтэрнаце для састарэлых, памятаюць пра гэта заўсёды.**



Куранецкі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў стаў для іх другім домам. Сабраўшыся разам у двары, бабулькі заўсёды маюць аб чым пагаварыць.

Фота Святланы ЦІШКО.

Нішто не наводзіць на мяне такога смутку, нішто не нараджае такога пачуцця бездапаможнасці, як адзінока асветленае ўначы акно ў пакінутай вёсачцы ці ў скопішчы сучасных дамоў. Што там, за гэтым нядрэмным акном? Каго і што ўстрывожыла, падняло з пасцелі? Можа, камусьці балюча? А можа, адзінока, як некалі бабулям і дзядулям, што пазачынялі свае хаты і прыехалі дажываць свой век пад дах Куранецкага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў.

У адзін голас кажуць, што ім тут добра. Пакоі светлыя, чыстыя, кормяць смачна, ёсць тэлевізар. А ў вачах, між тым, лёгкі сум. Забыўшыся сном, амаль што кожны з іх бачыць штоноч родныя мясціны, дзе прайшлі лепшыя гады. Калі б было крыху больш сілы, наўрад ці адважыліся б мяняць прапіску. Так і жылі б, чакаючы смерці, сярод знаёмых, вяскоўцаў, суседзяў, якія хоць зрэдку, але усё ж наведваліся, каб спытаць пра здароўе, нечым дапамагчы. Але ж неяк жыць трэба. Таму і далі згоду на пераезд пад дах дзяржаўнай установы.

Лічы ўсе пастаяльцы — людзі адзінокія. Сярэдні ўзрост бабуль і дзядуль – 57 гадоў, але ёсць сярод іх і такія, што размянялі дзявяты дзесятак. Амаль усе могуць абслугоўваць сябе самі і нават ствараюць сем'і. Нядаўна была выдзелена асобная "кватэра" бабулі і дзядулю, якія вырашылі, пражыўшы ўсё жыццё ў адзіноце, злучыць свае лёсы. Не ў крыўдзе і астатнія пастаяльцы. Жывуць па два-тры чалавекі ў пакоі, абавязковымі атрыбутамі якіх з'яўляюцца ложак, шафа, столік ля акна. У многіх ля ложкаў прывезеныя з дому дыванкі, фотаздымкі і партрэты, гледзячы на якія нават не верыцца, што гэтыя нямоглыя старыя бабулькі былі некалі такімі прыгажунямі.

Амаль кожнай з іх пакінулі адбітак на твары не толькі гады, але і цяжкая праца, якой у вясковых кабет было заўсёды, хоць адбаўляй. Не сядзяць склаўшы рукі і тут, дапамагаюць на кухні, шчыруюць на агародзе, дзе расце амаль што ўся гародніна. А яшчэ – на інтэрнатаўскай ферме, там рохкаюць 5 кабанчыкаў і растуць трусы.

Маюць на стале і сваё малако, яблыкі з уласнага сада. Дарэчы, лішнім усё гэта не бывае. Сямейка ж не малая. На сённяшні дзень у Куранецкім доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў жывуць 29 чалавек. Кожны з іх са сваім лёсам, сваёй жыццёвай гісторыяй.

Аркадзь Іванавіч, напрыклад (імя мужчыны зменена), трапіў сюды пасля смерці бацькоў. Псіхічна хворы, не меў пры сабе ні пашпарта, ні якіх іншых дакументаў. Не мог расказаць і пра тое, калі нарадзіўся. Паўтара года збіраў дырэктар інтэрната Георгій Ганчар дадзеныя для пашпарта, каб адправіць яго ў спецустанову, вельмі ж ужо буйны быў мужчына і любіў гарэлку. Ледзь развіднее, каптан на плечы – і ў вёску. Каму дровы паб'е, каму плот пафарбуе. А за гэта расплата – абед ды чарка, пасля якой персанал інтэрната не мог яго ўгаманіць.

Жыве тут і злодзей у законе па прозвішчы Сабакін. Каля трыццаці гадоў правёў гэты чалавек за кратамі. Схапіўся за галаву, калі прыйшоў час старасць сустракаць. На жыццёвым календары семдзесят, а за плячыма — ні сям'і, ні дзяцей, ні дома. Прызначылі сацыяльную пенсію, накіравалі ў інтэрнат, дзе і жыве з 1996 года.

Добрым словам успамінаюць тут і Васільеўну, бабульку, якая лячыла ўвесь Вілейскі раён ад сурокаў, спалоху. Ехалі да яе дарослыя, везлі дзяцей, казалі, што дапамагала, як сапраўдны доктар. У мінулым годзе яна памерла. Пайшла з жыцця ціха, на досвітку, нікому нічога не сказаўшы на развітанне. А вось дзядулю з Крывога Сяла работнікі інтэрната выхадзілі.

Прывёз яго ў Куранец старшыня сельвыканкома, нямоглага, ледзь жывога. Пасля таго, як згарэла ў сакавіку хата, мужчына пераабсталяваў пад жытло лазню і мыкаў там адзін сваё гора. Ніхто не ведае, як ён там жыў, а вось што галадаў – бясспрэчна. У інтэрнаце яго вучылі есці. Паілі, як дзіця, з чайнай лыжачкі малаком.

Хапае фельчару **Наталлі Валасовіч** клопату і з іншымі пастаяльцамі. Але на цяжкасці не скардзіцца, бо даўно ўжо засвоіла, што для таго, каб паставіць чалавека на ногі, патрэбны не толькі лекі, але і цёплая ўсмешка, добрае, спагадлівае слова.

**Марына СЛІЖ.**

■ **ЖЫЦЦЁВАЕ**

# Родны вораг

Аксанка прачнулася ад апетытнага паху смажанай кілбасы, што з кухні пранік у іх з сястрой пакой. Смачна пацягнула носікам і, шлёпаючы па падлозе босымі ножкамі, пабегла да стала, дзе ў абдымку з патэльняй ужо сядзеў бацька. Дзяўчынка падцягнула бліжэй табурэтку, стала на яе каленцамі і... ад бацькавага ўдару паляцела пад печ. Моцна выцяўшыся галоўкай, яна нават не заплакала. Так і ляжала на падлозе, пакуль не падаспела маці. Падхапіўшы на рукі трохгадовую дачку, жанчына выбегла ў двор: заплач дзіця ў хаце, зноў пачнецца сварка, пасля якой ужо ні ёй, ні дзяўчаткам не будзе месца. Рыпнулі дзверы, на ганак, душачыся слязамі, выйшла Наташка. Села ля маці на прыступку, шчыльненька прыціснулася да яе рукі. У свае пяць гадоў гэтае дзіця шмат перажыло і многае разумела.

Снедалі яны позна. Блінамі... і тлушчам, што застаўся на патэльні. Больш кілбасы ў хаце не было, ды яе, гледзячы на Аксанчыну забінтаваную галоўку, ніхто ўжо не хацеў.

Узяць бы Ірыне дзяцей ды з'ехаць далей ад свайго мужазлыдня. Толькі куды, калі на гэтым свеце няма ніводнай роднай душы. Пабраўшы дзяўчатак за рукі, пайшла да свекрыві, што жыла на другім канцы вёскі. Ганна Канстанцінаўна, убачыўшы ў двары заплаканых нявестку і ўнучак, схапілася за сэрца.

Да Ірыны яна адносілася з асаблівай цеплынёй. Лёс шчодра ўзнагародзіў яе сынамі, а дачушкі не даў. Худзенькую дзяўчынку-сірату, што прывёў яе Косцік у хату і назваў жонкай, яна шкадавала і любіла, бы сваё дзіця. І не раз, стоячы на каленях перад абразамі, прасіла для яе хаця бы жменьку шчасця. На большае з такім мужам, як яе сын, нельга было разлічваць.

А час між тым ішоў. Лета змяніла восень, за ёй неўпрыкметку падкралася зіма. З траскучымі маразамі і працавітымі завірухамі, што намяталі за адну ноч у калена снегу. Па бялюткай яго роўнядзі і адправіўся, забраўшы з хаты апошнія грошы, Косцік у горад. Вяскоўцы расказвалі Ірыне, што гандлюе ён на рынку. Стаіць такі важны, з высока паднятай галавой і стараецца не заўважаць людзей, з якімі жыў побач не адзін год. Яна толькі адмахвалася, маўляў, няхай робіць, што хоча. Толькі б не біў яе, не чапаў дзяўчат.

А справы ў бізнесмена тым часам незаладзіліся. І ён прыдумаў, як можна паправіць сітуацыю. Прыехаў у вёску і вывеў з хлява апошнюю карову. Ірына не сказала ніводнага слова. Ведала, муж не спыніцца ні перад чым. Станеш саромець, папракаць – заб'е.

Праз некалькі тыдняў яго пасадзілі. Неба ў клетку здалося для гэтага чалавека выратаваннем, бо завінаваціў да таго часу амаль што ўсяму раёну. Для сям'і ж наступілі чорныя часы. Не было таго дня, каб не прыязджалі крэдыторы і не патрабавалі вярнуць мужавы даўгі. Спалоханая жанчына паказвала ім пустую шафу, хлявы, тлумачыла, што грошай тых і ў вочы не бачыла. Ёй, здаецца, верылі. Пасля Ірына расказвала, што адзін з мужчын, якому Косцік завінаваціў грошы, убачыўшы, чым снедаюць яе Аксана з Наташай, паклаў на стол дзесяць тысяч рублёў, каб купіла хоць хлеба.

Прапала Ірына акурат у дзень Святога Валянціна. Выехала на веласіпедзе з фермы, дзе працавала даглядчыцай, і... бы ў ваду канула. Яе шукалі супрацоўнікі міліцыі, родныя, калегі, вяскоўцы – безвынікова.

Знайшлі цела маладой жанчыны толькі ўвесну. За вёскай, ля гаманкога раўчука, у якім вясковая дзятва любіла пускаць караблікі. Плакалі дзяўчаткі, галасіла свякроў, выціралі слёзы, гледзячы на труну, якую ў апошні раз везлі па вёсцы, мястэчковыя людзі. Ніхто не мог зразумець, за што гэтай сям'і кара такая. І каму было трэба, каб дзеці Ірыны паўтарылі, застаўшыся сіротамі, яе лёс.

Бабуля не аддала іх ні ў прытулак, ні ў дзіцячы дом. Аксанка і Наташка жывуць разам з ёй, у вёсцы, ходзяць у мясцовую школу. Праўда, водзіць іх туды і забірае дзядуля. Родныя баяцца за іх жыццё, за іх здароўе.

"Лепш бы Косцік дзе згінуў, а Ірка мая жыла", — не раз у роспачы гаварыла суседкам Ганна Канстанцінаўна. Як жа павінна насаліць дзіця сваёй маці, каб яна пажадала яму такога лёсу? Якім жа зверам, нелюдзем павінны быць чалавек, каб стаць сваёй сям'і ворагам, ад якога яшчэ не раз прыйдзецца бараніцца як маці, так і дзецям.

**Марына СЛІЖ.**

■ **НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ**

# Зямля наша такая

Прыехаўшы на вёску, заўсёды сутракаю родзічаў. Абмяркоўваю з імі навіны рэспубліканскага і мясцовага значэння. А сёлета пабыў на курорце. Гэта сур'ёзная навіна. Бо бачыў шмат розных людзей з розных куткоў Беларусі. Калі ўвечары зайшоў на госці хросны бацька, гэта вылілася ў доўгую размову. Бо хроснаму майму за 80. І да здароўя ў яго ўважлівыя адносіны. Хоць увесь час трымае гаспадарку: карову, пару кабаноў, курэй. Заўзяты пчаляр, зноў жа сад, гарод.

Гэта не дазваляла выязджаць з вёскі, бо хто ж будзе глядзець гаспадарку? Але мне сваё дамаседства тлумачыць адмыслова:

— Прапаноўвалі мне пуцёўку ў санаторый. Бо працаваў доўга дарожнікам. Будаваў дарогі яшчэ пры тых саветах. Але не паехаў. Пабаяўся, што не сышчуся. Гэта ж далёка ехаць на тое Чорнае мора!

Гледзячы на гэтага моцнага, каржакаватага чалавека, я зразумеў сакрэт яго доўгажыхарства. Ён – у нашай зямлі, якая ўсё жыццё корміць яго сваімі пладамі. У працы, саматужнай, цяжкай, але карыснай і сабе, і дзяржаве. У спакойнай чарзе штодзённых падзей.

Сказаўшы яму пра гэта, пачуў у адказ смех:

— Ну, раз зразумеў, значыць, разумны! Зямля наша такая. Здароўя патрабуе, але аддае яго пад старасць. Калі яно больш патрэбным робіцца чалавеку.

Я ж хацеў бы пажадаць і яму, і ўсім чытачам газеты доўгіх год і здароўя. На карысць нашай зямлі і сабе, канешне.

# Пазваніце бацькам

У наш час кожны вымушаны шукаць усё новыя крыніцы фінансавання. Адзін гандлюе, другі падпрацоўвае на будоўлі. Пенсіянерам уладкавацца на працу складана, таму і хапаюцца за любую магчымасць зарабіць.

Адна мая знаёмая пенсіянерка трымае сабаку. Аўчарку. Прывёз сын, пераклаў клопат па догляду на бацькоў. Каб дагледзець яе, патрэбна шмат клопату і грошай. Таму жанчына падпрацоўвае збіраннем пляшак. А паколькі сабака разумны, то і ён падключыўся да гэтай справы. Гэта зразумелі выпадкова. Жанчына падняла адну, а сабака, паглядзеўшы, прынесла гаспадыні другую. Каб замацаваць атрыманы рэфлекс, сабаку жанчына пахваліла і пагладзіла.

Час ішоў. Дрэсіроўка працягвалася. Але з'явіўся новы клопат – сабака прыносіў пабітыя пляшкі. Каб не марнаваць час, гаспадыня вырашыла навучыць яго іх адрозніваць. Узяла пабітую пляшку і, гледзячы на сабаку, плюнула на яе. І кінула пад куст.

Сабака паглядзеў на яе, на пляшку, чмыхнуў носам. Гаспадыні гэтага падалося недастаткова. Яна яшчэ дадала: "Фу!". А сабака замацаваў гэтую каманду высока задранай лапай.

Так сабака дапамагае пенсіянерам выжыць. А ў адказ атрымлівае сродкі на сваё выхаванне. Ну, і на адукацыю, канешне. А пенсіянерам не так сумна жывецца. Без дзяцей, іхніх клопатаў. Хоць іншы раз і сумна. Пазваніце бацькам.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

# Храптовічава Вішнева

**Даўні тракт з Ашмянаў да Мінска вядзе праз Гальшаны, Багданаў, Вішнева і Валожын. Вішнева ляжыць над рэчкай Гальшанкай за 8 км на ўсход ад Багданава. У міжваенны перыяд тут была сядзіба гміны, а Валожын быў павятовым месцам.**

У XV стагоддзі вішнеўскія ўладанні належалі магутнаму роду Гедыгольдавічаў. Ужо ў 1424 годзе пачынальнік роду Сямён Гедыгольдавіч, кашталян віленскі, арандатар смаленскі быў фундатарам драўлянага касцёла ў гэтай мясцовасці. У канцы XVI стагоддзя, як падае Чэслаў Янкоўскі – аўтар манаграфіі "Павет Ашмянскі", Вішнева было ўласнасцю роду Пацаў. Паміж 1596 і 1604 гадамі тры Пацавы сястры — Барбара, Кацярына і Гальшка — прадалі Вішнева Адаму Храптовічу. Так гэтая мясцовасць на тры стагоддзі трапіла ва ўладанне роду Храптовічаў мянушкі Літавор гербу Адроваз, дадзенаму ім у 1413 годзе ў Гародні. Храптовічы адчувалі сябе ўтульна ў гэтых мясцінах, асабліва ў Шчорсах над Нёманам, атрыманых ад вялікіх князёў Літоўскіх. Лёс Вішнева і Шчорсаў такім чынам цесна звязаны паміж сабой.



Касцёл Марыі XVII ст. у Вішневе.

## Ад Адама да Адама

Сын Адама Храптовіча-Літавора Ежы (1586-1650) нарадзіўся ў Вішневе, кашталян смаленскі, ваявода навагародскі, на месцы старога драўлянага касцёла, узведзенага ў 1424 годзе, на працягу 1637-1641 гадоў пабудаваў мураваны касцёл. Захаваўся ён да гэтага часу ў адносна добрым стане дзякуючы таму, што ўсе мінулыя гады, да другой сусветнай вайны, быў дзейсны. А іншыя касцёлы таго раёна праз агульную ўласнасць зрабіліся фабрыкамі ці складамі. Час захаваў рэльефны арнамент з 1637 года, спавядальню і барочныя лавы з гербам Храптовічаў.

Ежы Храптовіч меў 4-х сыноў. Пасля яго смерці ў 1650 годзе, пасля падзелу маёмасці, Вішнева перайшло да наймалодшага, Яна, які вярнуўся з палону, у які трапіў пад Жоўтымі Водамі ў маі 1648 года.

Унучка Яна, Соф'я Храптовіч, першая жонка Адама Тышкевіча, падкаморніка слонімскага, выйшаўшы другі раз замуж за Даманіка Саванейскага, не пакідае дзяцей і запісвае Вішнева Іаахіму Літавору Храптовічу тэстаментам на пажыццёвае карыстанне. Так Вішнева зноў стала належаць магутнаму роду Храптовічаў.

Іаахім Храптовіч (нар. у 1729 годзе ў Язынцы, памёр у 1812 годзе ў Варшаве), нашчадак Шчорсаў і Вішнева, быў адной са значных постацей у ВКЛ. Ад 1773 года быў падканцлерам ВКЛ (канцлер у 1793 годзе), стваральнік Адукацыйнай камісіі, рэфарматар Віленскай акадэміі, суарганізатар варшаўскага Таварыства Прыяцеляў Навук. Быў захопленым бібліяфілам і збіральнікам кніг. У сваёй кватэры па вуліцы Длугіей сабраў вялікі збор кніг на польскай мове, а таксама шмат рукапісаў, гравюраў, мап і хронік. У Шчорсах збудаваў у 1770-1771 гадах прадстаўнічы палац, творцам якога быў італьянец Джозэф дэ Сака пры саўдзеле француза Якуба Габрыэла. У той рэзідэнцыі Іаахім Храптовіч прымаў у 1784 годзе караля Станіслава Аўгуста па дарозе на сейм гарадзенскі. Адзін з першых магнатаў Літвы, які браў чынш са сваіх работнікаў, а кожнай гаспадарцы надаў асобны надзел. У 1778 годзе ў Вішневе была закладзена гута па выплаўцы жалеза, першая і адзіная ў гэтым краі фабрыка жалезных адліваў. Яны выкарыстоўвалі мясцовыя залежы руды. Фабрыка тая ў 1830 годзе мела 72 сталыя працоўныя месцы. Праіснавала да 1870 года. Вішнеўскія мясціны ўключалі ў сябе мястэчка, шэраг фальваркаў, лясы. Як падае Чэслаў Янкоўскі ў 1797 годзе, зямлі тут налічылі 28000 дзесяцін і каля 2500 падданых абодвух палоў.

Перад смерцю Іаахім Храптовіч меў намер прадаць частку сваіх збораў бібліятэцы Акадэміі Віленскай. Але гэта так і засталося нявыканым. Бібліятэка не мела адпаведных фондаў на выкуп аддадзенага за даўгі кнігазбору. Сын Іаахіма, Адам Храптовіч (1768-1844), бацькаў кнігазбор, які налічваў 8000 тамоў, вывез з Варшавы і размясціў у палацы ў Шчорсах.

Адам Храптовіч, чарговы ўладальнік Вішнева і Шчорсаў, быў дэпутатам чатырохгадовага сейму 1788-1792 гадоў ад навагародскага ваяводства. Інспектаваў школы на тэрыторыі Літвы па даручэнні Віленскага універсітэта. З'яўляўся ганаровым членам таго ж універсітэта, старшынёй Віленскага Таварыства дабрачыннасці. Як і бацька, быў заўзятым бібліяфілам. Павялічыў яго кнігазбор да 15000 тамоў. Быў прыяцелем вучоных і паэтаў. У яго часта гасцілі Ян і Еджэй Сніядэцкія, Яўхім Лелевель. Запрашаў да сябе ў Шчорсы маладых выпускнікоў Віленскага універсітэта. На мяжы 1821-1822 гадоў яго гасцямі былі Адам Міцкевіч, Францішак Малеўскі, А.Е.Адынец. У 1841 годзе па вяртанні з ссылкі бібліятэкарам у Шчорсах быў Ян Чачот (1796-1847). Вынікам наведвання Шчорсаў Адамам Міцкевічам стала постаць у "Гражыне", якой паэт надаў імя Літавора – бядняцкай мянушкі Храптовіча.

Адам Храптовіч памёр у 1844 годзе не ў Вішневе, а ў суседнім месцы, званым Адравазем, ад назвы герба Храптовічаў. Існаваў там аж да другой сусветнай вайны мураваны будынак, часткова пашкоджаны. У ім была захавана вежа-стражніца. Ёсць вартыя ўвагі сведчанні, што на цвінтары касцёла ў Вішневе захавалася выява Адама Храптовіча з надмагільнай яго пліты.

## Гаспадар Вішнева – граф

Пасля Адама Вішнева і Шчорсы атрымаў у спадчыну яго брат – Ірэнеуш Кавалер Мальтыйскі, а пасля яго сын Міхаіл Храптовіч (1809-1892), жанаты на дачцэ Несельрода-Эрасховен (1815 г.н.), дачцэ канцлера і міністра замежных спраў Расіі. Міхаіл Храптовіч цалкам прысвяціў сябе дыпламатычнай рабоце. Быў паслом Мікалая Першага ў Неапалі, а пасля – у Лондане. З 1862 года жыў у Варшаве, дзе стаў на чале двара намесніка вялікага князя Канстанціна. За заслугі перад дваром атрымаў ад цара тытул графа. Міхаіл Храптовіч памёр 9 лютага 1892 года ў Парыжы, у яго не было дзяцей. Быў ён апошнім нашчадкам шчорсаўскай галіны Храптовічаў.

## Бойкае мястэчка

Пасля смерці Міхаіла, згодна з указам цара Аляксандра Трэцяга ад 9 чэрвеня 1893 года, Шчорсы і Вішнева перайшлі ва ўладанне да Міхаіла і Канстанціна Буценевых. Графскі тытул перайшоў таксама. Яны былі сынамі сястры Міхаіла – Марыі Храптовіч, жонкі Апалінарыя Буценева – расійскага дыпламата. Але адораныя павінны былі ўжываць падвоенае прозвішча Буценевых-Храптовічаў.

Гаспадарка ў Вішнеўскіх мясцінах стала весціся на вельмі высокім узроўні, які ўтрымліваўся аж да першай сусветнай вайны. Займаліся тут гадоўляй кароў галандскай пароды, колькасць якіх была за 1000 галоў. Адначасова займаліся развядзеннем авечак. У астатніх маёнтках быў уведзены шасціпольны севазварот. У Гелянове і Бярэзіне былі два бровары, а ў самім Вішневе – піваварня. Працавалі тут млыны і тартак. Землеўладальні вішнеўскія складалі 20000 дзесяцін, з якіх лесу было 14500 дзесяцін. Адміністрацыя складалася з палякаў.

Гаспадаркай Вішнева да 1899 года загадваў Антоні Юргенсан (памёр у 1913 годзе), радня якога мела вельмі прыязныя стасункі з Рушчыцамі з суседняга Багданава. У наступныя гады Антоні Юргенсан працаваў у Шчорсах генеральным адміністратарам маёмасці графа Буценева-Храптовіча. Пасля Юргенсана адміністратарам Вішнева быў Чэслаў Захарэўскі, а з 1913 года – Чэслаў Серадскі.

Малодшы з братоў Буценевых-Храптовічаў Канстанцін яшчэ перад першай сусветнай вайной перадаў з бібліятэкі ў Шчорсах каля 4500 старадрукаў польскіх і частку рукапісаў Кіеўскаму універсітэту як дэпазіт да моманту адкрыцця Віленскага універсітэта. Цяпер гэтыя зборы знаходзяцца ў бібліятэцы Акадэміі навук у Кіеве. Спробы ўгаварыць Канстанціна перагледзець гэтае рашэнне, зробленыя ў 1911 годзе Фердынандам Рушчыцам і Вацлавам Студніцкім, каб ён пераказаў палову Вільні, не прынеслі выніку. Рэшткі збораў у Шчорсах (выданні на розных мовах) былі вывезены падчас першай сусветнай вайны ў Маскву.

У канцы XIX стагоддзя Вішнева было бойкім мястэчкам, дзе дзейнічалі пошта і аптэка. Рымска-каталіцкая парафія налічвала 6000 чалавек, а праваслаўная – 3000, як падае Чэслаў Янкоўскі.

## Калі прыйшлі войны

Першая сусветная вайна зруйнавала спадчыну Храптовічаў амаль ушчэнт. У кастрычніку-лістападзе 1915 года нямецкія войскі дайшлі да Вішнева. Мястэчка знаходзілася на самай лініі фронту, якая не змянялася аж да Брэсцкага міру ў лютым 1918 года. Пасля быў двухгадовы перапынак, падчас якога фальваркі, млыны і прамысловыя прадпрыемствы былі знішчаныя, а лясы – высечаныя. Падобны лёс напаткаў і Шчорсы, праз якія ў 1915-1918 гадах праходзіла лінія фронту. Палац быў спалены. Рэшткі руін засталіся. Пасля першай сусветнай вайны родныя Буценевых-Храптовічаў аселі ў Парыжы.

Як піша ў сваіх мемуарах "Зачыні вочы небяспецы" спадкаемца слыннага "Кабарэту Слынных Паноў" Жэрамі Прыбора, у 30-я гады ўнук Марыі Буценевай-Храптовіч граф Апалінарый (нар. у 1880 годзе) адшукаў свае карані і ў 1935 годзе прыязджаў у Шчорсы з другой жонкай, Вольгай Аляксандраўнай, і дзецьмі.

Побыт, які трываў столькі год, быў перарваны назаўжды ў верасні 1939 года. Апалінарый Буценеў быў арыштаваны і асуджаны ў Навагрудку. З турмы яго вызваліла другая сусветная вайна. Нямецкія ўлады дазволілі яму, як "беламу", з'ехаць у акупіраваны Парыж. Дзяцей графа Апалінарыя ўдалося ў 1939 годзе вывезці са Шчорсаў у Варшаву, пасля – у Францыю, а потым і ў Амерыку.

Жонка графа, Вольга Аляксандраўна, была вывезена разам з іншымі зняволенымі ў Казахстан. З арміяй Андэрса праз Іран і Бліжні Усход дайшла да Егіпта, дзе працавала ў вайсковым шпіталі. У Парыж дабралася толькі ў 1945 годзе, дзе сустрэла ўцалелага мужа і дзяцей.

Так выглядае гісторыя некалі магутнага роду Храптовічаў-Літавораў з галіны, якая выходзіць ад Хведара Храптовіча, падскарбія ВКЛ (памёр у Шчорсах у 1528 годзе), да цяперашніх дзён.

Сярод прадстаўнікоў гэтага роду было шмат уплывовых людзей, якія мелі заслугі перад Радзімай...

**Эдвард РУШЧЫЦ.**
**Пераклаў з польскай мовы Алесь РАЛАВЕЦ.**

# Ён быў спеваком

**МАЛАДЗЕЧНА. Невялічкая вуліца, што выходзіць на Вялікі Гасцінец, носіць імя Міхася Забэйды-Суміцкага. На ёй размешчаны турклуб «Пілігрым», інтэрнат аднаго з заводаў і яшчэ некалькі шматкватэрных дамоў. Што гэта за чалавек, незвычайнае двайное прозвішча якога з'явілася на карце горада ў пачатку 90-х гадоў?**

Спявак, лірычны тэнар, выканаўца славянскіх і іншых песень Міхась Забэйда-Суміцкі нарадзіўся 14.06.1900 года ў вёсцы Несцеравічы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Двайное прозвішча ўзяў ад бацькі — Івана Забэйды і маці — Аляксандры Суміцкай. У сям'і было сямёра дзяцей, але ўсе памерлі. Міхась з дзевяці гадоў дапамагаў маці, працаваў падзённа. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Вучыўся добра, атрымліваў поўную стыпендыю. Але яе не хапала, а з дому дапамогі не было, таму даводзілася адначасова з вучобай працаваць. У гэтай навучальнай установе малады семінарыст здолеў развіць свой прыродны талент, бо спевы тут былі пастаўлены вельмі добра: знаёмілі з тэорыяй музыкі, быў свой хор, вучылі дырыжыраваць. Пазней Міхась Забэйда ўспамінаў: «Спяваць я любіў з дзяцінства: пачынаў з маці (яна мела добры голас), потым у школе выбіралі мяне ў салісты дзіцячага хору, спяваў у царкве і нават на вяселлях».

Ваенная завіруха першай сусветнай вайны прымусіла пакінуць родныя мясціны. Забэйда-Суміцкі паехаў у Барнаул, дзе тады была яго маці. Два гады працаваў настаўнікам. Далейшы лёс закінуў яго ў Харбін (з 1922). Там быў оперны тэатр. Міхась Іванавіч шмат працаваў над пастаноўкай голасу. Вучобу вырашыў працягваць на эканамічным аддзяленні юрыдычнага факультэта мясцовага універсітэта. У 1929 годзе пасля заканчэння вучобы яму прапанавалі аспірантуру. Забэйда-Суміцкі выбраў оперу. Поспех опернага спевака прыйшоў адразу, пасля выканання партыі Ленскага ў оперы «Яўгеній Анегін». Любоў публікі дала магчымасць паверыць у свае здольнасці і сілы, і Забэйда-Суміцкі стаў марыць аб наведванні Італіі. Са свайго сціплага заробку адкладваў грошы на паездку ў Міланскую оперу. Мара збылася. У Мілане (1932-1934) спявак вучыўся ў выдатнага педагога Ф.Карпі, у якога ў свой час стажыраваўся знакаміты Каруза.

Сваю оперную кар'еру прадоўжыў у Польшчы. Спачатку была Познань, з 1937 па 1940 год — Варшава. Ён усё часцей уключае ў рэпертуар канцэртаў песні бацькаўшчыны, якія з дзяцінства чуў ад маці. У Празе з мая 1940 года працаваў у Нацыянальным тэатры. І тут ён знаёміў тысячныя аўдыторыі з беларускай песняй. Па словах Рыгора Шырмы, Міхась Забэйда-Суміцкі «патрапіў вывесці беларускую народную песню ў шырокі свет». З асаблівым пачуццём слухачы ўспрымалі «Калыханку» ў яго выкананні.

У Празе знакаміты спявак пражыў да канца жыцця. Толькі ў 1963 годзе яму было дазволена прыехаць у Беларусь, выступіць з канцэртамі ў Мінску і Гродне. Памёр 21.12.1981 года, пахаваны ў Празе.

**Падрыхтавана па старонках кнігі «Памяць».**

 



■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Зноў прымянілі бліцкрыг

**Зорка-ВА-БДУ (Мінск) – Маладзечна-2000 1:5 (0:4). 14 верасня. 500 гледачоў. Суддзя Кунцэвіч. Галы: Папковіч (90); Лабанаў (5, 15), Дараховіч (21), Якімчук (24), Хамутоўскі (91+).**

Склад: 1.Сцепановіч – 3.Дрозд, 4.Крывіцкі, 5.Афанасевіч – 6.Лявончык, 8.Альховік (15.Кадол,59), 10.Вышынскі (18.Хамутоўскі,73), 9.Дараховіч, 2.Якімчук – 7.Лабанаў (12.Мятліцкі,46), 11.Урублеўскі.

Папярэджаны Дрозд (прапусціць наступны матч).

Новы трэнерскі штаб маладзечанскага клуба паказаў сваё ўменне рыхтаваць каманду да самых важных для яе матчаў. Два тыдні, якія папярэднічалі справаздачнай сустрэчы, футбалісты правялі ў рэжыме спецыяльнай падрыхтоўкі. Вынік не прымусіў сябе чакаць: прайшла толькі палова тайма, а госці забілі чатыры мячы.

Галы Лабанава былі падобнымі, яны забіваліся пасля выхаду сам-насам з галкіперам справа ад варот, чаму папярэднічалі памылкі аднаго і таго ж абаронцы і добрыя перадачы партнёраў Урублеўскага і Дараховіча. Наступныя два галы таксама падобныя: прыгожыя ўдары ў правы верхні кут. Спачатку Дараховіч змясціўся з мячом у цэнтр і па дузе стрэліў на супрацьходзе ад сегмента штрафной. Потым Якімчук адным дотыкам з раёна 11-метровай адзнакіператварыў у гол флангавую перадачу.

Зразумела, што гульня супакоілася. Руслан Лукін нават знайшоў магчымасць папрацаваць з тактычнымі варыянтамі: каманда выйшла на матч з трыма абаронцамі і двума нападаючымі, а пасля замены ў перапынку стала гуляць па схеме 4-5-1.

Бурным было і завяршэнне гульні. На жаль, Сцепановіч прапусціў удар у блізкі кут з межаў штрафной, але праз хвіліну Хамутоўскі пабег з цэнтра поля на выніковае рандэву з галкіперам гаспадароў.

Падчас трох апошніх узяццяў чужых варот партнёрам асістыраваў Урублеўскі. Такім чынам усяго ў матчы ён аддаў 4 галявыя пасы, што стала паўтарэннем рэкорду чэмпіянату краіны ў вышэйшай лізе, усталяванага бабруйчанінам Кукарам яшчэ ў 1993 годзе. І яшчэ крыху прыемнай статыстыкі.

Апошні раз маладзечанцы перамагалі ў вышэйшай лізе з буйным лікам больш чым 5 гадоў таму – 22 мая 1998 года слонімскі "Камунальнік" 5:2, а на выездзе гэта было яшчэ ў часы Макоўскіх – 27 кастрычніка 1995 года мінскае "Тарпеда" 4:0.





Віктар Урублеўскі і Андрэй Лабанаў – выніковы тандэм нападаючых "Маладзечна-2000".

Фотаздымкі з сайта www.fcmolodechno2000.com.

### Віктар Урублеўскі: «30 месяцаў без вышэйшай лігі»

**– Ведаю, што Вы раней гулялі ў вышэйшай лізе, але быў перапынак. Чаму?**

-Я гуляў за "Дынама-93", пакуль яно не развалілася ў 1998 годзе, потым каля года правёў у "Дняпры-Трансмашы", потым спрабаваў замацавацца ў мінскім "Дынама", аднак не атрымалася. Нарэшце звязаў сябе з "Тарпеда-Кадзінам", але там не стрымалі фінансавых абяцанняў, у мяне ўзніклі нелады з кіраўніком Міхаілам Басам. Карацей кажучы, атрымалася так, што на працягу 30 месяцаў (два з паловай гады) мог гуляць толькі як аматар у другой лізе. У 2001 годзе залечваў траўму і выступаў у "Забудове", у 2002 – зноў гуляў за чысціцца, а таксама за МТЗ-РІПА, сёлета першы круг правёў у "Верасе".

Цяпер для мяне зноў адкрыўся "вышэйшы свет", прыняў запрашэнне Руслана Лукіна, якога ведаю па працы ў "Забудове". Пакуль усё атрымліваецца нармальна ў гульнявым плане, ды і грошы ёсць: футбалістам выдалі і зарплату, і прэміяльныя за кубкавую перамогу.

**– Вы рознабаковы нападаючы: галавою за "Маладзечна-2000" ужо двойчы забівалі, а цяпер на галявыя пасы расшчодрыліся.**

– Каб забіць галавою, трэба атрымаць нацэленую перадачу. У "Маладзечна-2000" ёсць каму яе аддаць: мне асістыраваў Дараховіч. З маіх пасаў раней таксама забівалі, але так многа за матч, вядома ж, не было.

**14-15.09. Шахцёр – Дарыда 1:0, Гомель – Белшына 4:2, Нафтан – Дынама (Б) 5:0, Лакаматыў – Днепр-Трансмаш 0:0, Дынама (М) – Славія 3:0.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Гомель | 49 |
| 2. | Дынама (М) | 45 |
| 3. | Тарпеда-СКА | 45 |
| 4. | Шахцёр | 43 |
| 5. | БАТЭ | 36 |
| 6. | Тарпеда (Ж) | 31 |
| 7. | Нафтан | 25 |
| 8. | Днепр-Трансмаш | 25 |
| 9. | Нёман | 25 |
| 10. | Дарыда | 18 |
| 11. | Зорка-ВА-БДУ | 18 |
| 12. | Белшына | 18 |
| 13. | Дынама (Б) | 18 |
| 14. | Славія | 16 |
| 15. | Лакаматыў (М) | 14 |
| 16. | Маладзечна-2000 | 14 |

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КОНКУРС

# Нашы пераможцы Павел Сярпейка і Сяргей Ракоўскі

**Матчы, выстаўленыя на трэці тур, завяршыліся наступным чынам. Зорка-ВА-БДУ – Маладзечна-2000 1:5, Дынама (М) – Славія 3:0, Ведрыч-97 – Смаргонь 0:3, Дынама (К) – Лакаматыў 2:0, Арсенал – Інтэр 0:3. Іх вынікі аказаліся вельмі нечаканымі.**

Пераможцам другога тура стаў маладзечанец Павел Сярпейка, які адгадаў адзін лік, чаго не атрымалася ў Мікалая Кіндры.

На трэці тур атрымана 14 лістоў. І зноў-такі ніводны з іх не мае нават двух правільных лікаў, прычым на гэты раз усяго ў двух адказах быў правільна спрагназаваны адзін лік. Пераможцам стаў маладзечанец Сяргей Ракоўскі, на яго рахунку яшчэ і чатыры правільныя вынікі.

Уключыцца ў конкурс можна ў любы момант. Нагадаем, пераможца кожнага тура атрымлівае маральнае задавальненне і павагу астатніх удзельнікаў. А вось таму, хто выйграе два туры, (найлепшыя шанцы зараз маюць Ротміраў, П.Сярпейка і Ракоўскі) "РГ" уручыць свой прыз.

**Чацвёрты тур. З якім лікам завершацца матчы?**

**27-29 верасня, чэмпіянат краіны.**
**Шахцёр (Салігорск) – Маладзечна-2000.**
**Дынама (Мінск) – Тарпеда-СКА (Мінск).**
**Камунальнік (Слонім) – Смаргонь.**
**30 верасня, Ліга чэмпіёнаў.**
**Інтэр (Мілан) – Дынама (Кіеў).**
**Лакаматыў (Масква) – Арсенал (Лондан).**

Адказы на чацвёрты тур прымаюцца да пятніцы, 26 верасня, уключна. Іх трэба дасылаць на паштовы адрас рэдакцыі альбо на электронны адрас **konkurs@tut.by.**

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

**Анонс**

**19-21 верасня. Маладзечна. Міжнародныя спаборніцтвы дапрызыўнай моладзі.**
Удзельнічаюць каманды Мінскай, Маскоўскай, Кіеўскай абласцей, а таксама ўсіх раёнаў Міншчыны. Урачыстае адкрыццё — у суботу ў 9-00 ля Палаца культуры.
**19 верасня. 15-00. Маладзечна-2000 (дубль) – Тарпеда (Жодзіна, дубль).**
+0=0-3 2-5. У першым крузе 0:1 на выездзе.
**20 верасня. 17-00. Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна).**
+3=0-3 6-8. У першым крузе 0:3 на выездзе.
**21 верасня. 17-00. Смаргонь – Граніт (Мікашэвічы).**
+0=1-2 1-5. У першым крузе 0:2 на выездзе.
**21 верасня. 15-00. Забудова – Гомель-СДЮШАР.**
+4=0-1 6-6. У першым крузе 2:1 (Півавар, Татун) на выездзе.

■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

# Хто пакіне вышэйшую лігу?

**Упэўненая перамога "Маладзечна-2000" над армейцамі ўзмацніла нашу веру ў тое, што каманда застанецца ў наступным сезоне сярод мацнейшых. Па выніках чэмпіянату пакінуць вышэйшую лігу дзве каманды.**

"Лакаматыў" пасля першага круга прадаў ажно шэсць футбалістаў. Такім чынам ён утрымаўся ў фінансавых завірухах, але зараз вымушаны нагульваць у складзе юнакоў. Амбіцыйны кіраўнік Анатоль Юрэвіч наўрад ці захоча вяртацца ў першую лігу.

"Славію" нядаўна ўзначаліў таксама вядомы спецыяліст Уладзімір Курнеў. Проста так, абы папрацаваць яго б не запрашалі, ды і сам бы ён не пайшоў. Гонар двухразовага чэмпіёна краіны не надта дазваляе мазыранам апускацца ў першую лігу.

"Дарыду" турбуюць фінансавыя праблемы, кепская там была і псіхалагічная сітуацыя, што прадвызначыла пакіданне трэнерскага мосціка Курневым. Зараз многае залежыць ад гаспадароў клуба, ці пажадаюць яны далей дурачыцца са сваім дзецішчам.

"Зорка-ВА-БДУ" ужо даказала сваё ўменне перамагаць сераднякоў ды і ўзмацнілася добрымі футбалістамі, і, зразумела, пра развітанне з вышэйшым светам нават не думае.

"Белшына" і брэсцкае "Дынама" таксама размясціліся недалёка ў табліцы. Аднак ёсць розніца паміж імі. У Бабруйску працуе Людас Румбуціс – нияк не верыцца, што вынікам ягонай работы будзе паніжэнне ў класе. А вось у Брэсце відавочная трэнерская чахарда, там толькі што знялі "галоўнага", і яшчэ не прызначылі новага на пастаянную аснову.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ЗБОРНЫЯ

## Чакаем плэй-оф

**Матчамі ў Малдове нашы футбольныя зборныя завяршылі свой удзел у адборачных турнірах. "Першыя нумары" зноў не парадавалі вынікам, саступіўшы 1:2 і абяснаваўшыся на апошнім, 5 месцы.**

Затое маладзёжная каманда (1981 г.н. і маладзейшыя) упэўнена перамагла 2:0 (галы забіты на 39 і 85 хвілінах). У яе складзе трывала замацаваліся нашы землякі Павел Бяганскі (быў заменены ў перапынку) і Алег Попель (быў заменены на 49 хвіліне).

Нашы суайчыннікі забяспечылі сабе ўдзел у матчах плэй-оф за выхад у фінальную васьмёрку, якія пройдуць у лістападзе.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

**Табло**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**13 верасня. РВАР (Мінск) – Забудова 4:0 (0:0).**

Зараз чысцінцы маюць 23 ачкі і дзеляць ужо 9-10 радкі з "Ліваддзіяй". "Гомель-СДЮШАР" набраў на 1 ачко больш. Калі ў заключным туры ў бліжэйшую нядзелю "Забудова" не пераможа гамяльчан дома, то рызыкуе застацца на зусім непрыемным месцы ў выніковай табліцы.

**13 верасня. Зорка-ВА-БДУ (Мінск, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 1:0.**

За "Маладзечна-2000" дазаяўлены варатар Генадзь Жылкін 1975 г.н з Украіны.

■ СПАРТАКІЯДА

**ВАЛОЖЫН. Працоўныя калектывы раёна ў суботу і нядзелю спаборнічалі ў міні-футболе і лёгкаатлетычным кросе.**

У абодвух відах перамаглі супрацоўнікі лясгаса, а каманда ПТВ-208 была другой. Трэцяя пазіцыі дасталіся футбалістам аграпрамтэхнікі і бегунам РВА ЖКГ.

■ ГАРАДКІ

**Толькі адзін апошні вырашальны матч засталося правесці на клубным чэмпіянаце краіны. Ён адбудзецца ў хуткім часе.**

1 ліга. 27.08. Маладзечна. Кэмпі – СКА 3:2. 30.08. Салігорск. Шахцёр – МЭС 0:3, Шахцёр – СКА 1:3.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | МЭС (-1) | 25 |
| 2. | Кэмпі (-1) | 24 |
| 3. | Аўтасіб | 19 |
| 4. | Нёман | 12 |
| 5. | СКА | 6 |
| 6. | Шахцёр | 0 |

2 ліга. 07.09. Мінск. МАЗ – Маладзечнамэбля 0:3, Маладзечнамэбля – Асіповічы 3:0.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Маладзечнамэбля | 25 |
| 2. | Нёман-2 | 20 |
| 3. | Юнацтва | 16 |
| 4. | Асіповічы | 12 |
| 5. | МАЗ | 12 |
| 6. | Камунальнік | 3 |

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## З буйным лікам

**Ведрыч-97 (Рэчыца) – Смаргонь 0:3 (0:2). 13 верасня. 1500 гледачоў. Суддзя Шмолік. Галы: Клімёнак (34-аўтагол), Кухлей (37, 63).**

Пасля ўдару Тарасава мяч трапіў у штангу, адскочыў у абаронцу і адтуль у вароты (0:1). Кухлей на апярэджанні прабіў галавою з перадачы ўсё таго ж Тарасава (0:2). Карасёў пасам вывеў Кухлея на рандэву з варатаром, і нападаючы абыграў таго (0:3).

Смаргонцы па-свойму адпомсцілі "Ведрычу-97" за матч першага круга, калі дома мелі гульнявую перавагу, але ў спрэчным для судзейства эпізодзе прайгралі пад самы занавес матча. Дарэчы, зараз, акрамя эпізоду, якія сталі галявымі, таксама добрыя магчымасці мелі Грабадзін і Карасёў.

**13.09. ЗЛіН – Вертыкаль 3:0, Граніт – Тарпеда-Кадзіна 2:1, Бяроза – Ліда 1:0, Пінск-900 – Хімік 1:2.**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | МТЗ-РІПА | 51 |
| 2. | Лакаматыў (В) | 51 |
| 3. | ЗЛіН | 43 |
| 4. | Граніт | 43 |
| 5. | Ведрыч-97 | 39 |
| 6. | Смаргонь | 38 |
| 7. | Ліда | 35 |
| 8. | Хімік | 34 |

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

 

